ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

24 студзеня 1997 г. № 4 (3880) Кошт 3 000 руб.





# ПЕСНЯ ІДЗЕ АД СЭРЦА

Для чалавека, які жыве паўнакроўным творчым жыццём ды яшчэ з песняй у сэрцы, юбілей — гэта... Гэта, бадай, кароткі прыпынак для таго, каб прыгадаць усё добрае, што было на шляху ў мастацтве, падзякаваць усім, хто дапамагаў пераадольваць цяжкасці, і з надзеяй крочыць далей, ужо сталым, ужо з пэўным прафесійным вопытам. Калі сёння згадаць, з чым прыйшоў да свайго 50-годдзя заслужаны дзеяч мастацтваў лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі кампазітар Леанід Захлеўны, атрымаецца даволі ўнушальны спіс: творы сімфанічныя, харавыя, камерныя і, вядома ж, песні, жанр, у якім найбольш поўна выявіўся талент аўтара.

У яго былі добрыя настаўнікі — знакамітыя беларускія кампазітары, прафесары Акадэміі музыкі Анатоль Багатыроў і Яўген Глебаў. І на пачатку свайго творчага шляху Леанід Захлеўны паказаў сябе таленавітым вучнем, які працягваў лепшыя традыцыі настаўнікаў. Яго вакальны цыкл на словы Максіма Багдановіча "З вершаў народнага складу", дзве сімфоніі, харавыя апрацоўкі беларускіх народных песень (сярод якіх — непаўторная "Гаварыла поле шырокае"), дазвалялі меркаваць пра аўтара як асобу вельмі перспектыўную ў галіне беларускай акадэмічнай музыкі. Таму, калі ён засяродзіўся пераважна на песенным жанры, некаторыя калегі нават палічылі гэта за свайго роду "здраду" класічным традыцыям.

І ўсё ж час і творчыя вынікі пацвердзілі слушнасць яго нага выбару. Леанід Захлеўны ў песнях не імкнецца "моднічаць", пісаць "хіты", здзіўляць і ўзрушаць, ён піша як дыхае, як адчувае — без напругі, натуральна. Песня ідзе ад сэрца, напоўненага адчуваннем і разуменнем Бацькаўшчыны, свайго народа. Кампазітар не шукае лёгкага поспеху. Усе ягоныя песні нясуць тую някідкую, ціхую, але непераўзыдзеную прыгажосць, якая ёсць святло душы сына сваёй зямлі. Лірыка-патрыятычная, грамадзянская, любоўная — вось якія тэмы сілкуюць творчасць Л. Захлеўнага.

Два песенныя цыклы "Памяць" і "Я перад вамі з памяццю сваёй" і сёння застаюцца яркім узорам шчырага водгуку кампазітара на падзеі Вялікай Айчыннай, а песні "Поле памяці", "Пяхота" і "Памяць" быццам напісаны чалавекам, які сам прайшоў дарогамі вайны, зведаў яе горыч. Багата твораў напісаў ён пра родную Беларусь. Здавалася б, адна тэма, але як па-рознаму гучаць "Азёры дабрыні" на словы Уладзіміра Карызны і "Галасы зямлі" на словы Уладзіміра Някляева ці на вершы гэтых паэтаў — "Зялёны паром" і "Зямля мая"! Кампазітар знайшоў для кожнага верша сваю непаўторную меладычную інтанацыю, якая выяўляе адметнасць стылю кожнага паэта.

Сапраўды таленавіты чалавек, патрабавальны да сябе і іншых, ніколі не будзе спачываць на лаўрах, ён заўсёды ў пошуку новых ідэй, тэм, кірункаў дзейнасці. Апошнія пяць гадоў Л. Захлеўны з'яўляецца мастацкім кіраўніком папулярнага ансамбля народнай музыкі "Бяседа" і гэтай справе аддае ўсю энергію і здольнасці. А самая вялікая ўзнагарода для кампазітара сёння — гэта любоў слухачоў, незабыўныя сустрэчы з аматарамі народнай музыкі, перамогі "Бяседы" на міжнародных фестывалях.

Кажуць, у душы кожнага чалавека знаходзіцца мініяцюрны партрэт ягонага народа. Душа кампазітара Л. Захлеўнага — ягоныя песні, у якіх мы адчуваем прыгажосць і годнасць беларускай зямлі і яе народа. Калі ў 20 гадоў пануюць пачуцці, у 30 — талент, у 40 — розум, то далейшае жыццё разам з усім гэтым упрыгожваецца добрым густам. Няхай Леаніда Захлеўнага ў далейшым жыцці суправаджае гармонія пачуццяў, таленту, розуму і добрага густу, няхай вакол яго заўсёды будуць азёры людской дабрыні, а галасы зямлі яшчэ доўга-доўга жывяць ягоны талент! З юбілеем!

**Таццяна ПЕСНЯКЕВІЧ**

*Фота Віт. АМІНАВА*

*Пройдзе тыдзень-другі, і пасланне прэзідэнта Расіі прэзідэнту Беларусі, якое напачатку ўскалыхнула шырокую хвалю каментарыяў, здагадак і прагнозаў, пацішу, відаць, забудзецца. На радасць усім — як уладзе, так і апазіцыі. Але гэта зусім не азначае, што будзе пахавана сама "ідэя" аб'яднання — інтэграцыі — "воссоединения" — інкарпарацыі — аншлюса і г.д. Можна нават сказаць, што ў нашай сітуацыі — яна бессмяротная. Беларусь — не востраў у бязмежным акіяне, а значыць перманентна тыя ці іншыя палітычныя групоўкі, у залежнасці ад палітычнай і эканамічнай сітуацыі, будуць падкідваць ідэю яднання братніх краін. Але яшчэ больш жывучая, трывалая і непераможная ідэя незалежнасці. І таму ўсе падобныя "пасланні", "прапановы" ды інш. трэба ўспрымаць толькі як прышчэпкі дзеля выпрацоўкі імунітэту ў маладой незалежнай, але вечнай, дзяржавы Беларусь супраць усялякіх федэрацый, канфедэрацый і адзіных дзяржаў.*

## СУСТРЭЧА ТЫДНЯ

У апошнія гады адносіны Беларусі і Украіны да сваёй бліжэйшай славянскай суседкі — Расіі былі проста супрацьлеглымі, а між сабою — ледзь не варожымі, асабліва пасля арышту ўкраінскіх хлопцаў у Мінску падчас "Чарнобыльскага шляху" і адмоўнай рэакцыі Украіны на другі беларускі рэферэндум. І таму зусім нечаканым і нават сенсацыйным стала абвяшчэнне пра сустрэчу беларускага і ўкраінскага прэзідэнтаў у Гомелі. Хоць паварот ад варагавання да дружбы быў цалкам заканамерны і ўзаемавыгадны, зноў жа, асабліва ў святле апошніх "прапаноў" Б.Ельцына і выступлення маскоўскага мэра Ю.Лужкова ў Севастопалі. Зацікаўленасць у аднаўленні сяброўства бачыцца з абодвух бакоў. Украіне, пасля нядаўніх санкцый з боку Расіі, патрэбны "беларускі калідор" для выхаду тавараў на расійскі рынак, Беларусі ж неабходна яшчэ раз паказаць Расіі сваю значнасць і... незалежнасць... І яшчэ ў адным мы змаглі пераканацца на мінулым тыдні: палітыка справа не адно брудная, але і хітрая. Адразу ж пасля перамоў прэзідэнтаў Украіна загаварыла пра неабходнасць прысутнасці (прызнання) Беларусі ў міжнародных арганізацыях.

## РАШЭННЕ ТЫДНЯ

На чарговае пасяджэнне Пастаяннага камітэта Парламенцкай асамблеі АБСЕ ў Вену накіравалася адразу дзве дэлегацыі ад Беларусі: ад палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу на чале з У.Канаплёвым і ад Вярхоўнага Савета Беларусі 13 склікання на чале з П.Краўчанкам. Спецыяльна створаная камісія Парламенцкай асамблеі заслухала кіраўнікоў дэлегацый і прыняла рашэнне прызнаць паўнамоцтвы дэлегацыі Вярхоўнага Савета. П.Краўчанку запрасілі заняць месца афіцыйнага парламента Беларусі за сталом, на якім была ўстаноўлена таблічка "Беларусь".

## ЧУТКІ ТЫДНЯ

Трэці месяц Беларусь жыве без прэм'ер-міністра. За гэты час сам Кабінет Міністраў быў "перятрахнуты" і наноў амаль цалкам сфарміраваны. У кандыдатах на "галаву" ўрада перабыў дзесятак беларускіх палітыкаў і гаспадарнікаў, прычым некаторыя з іх цяпер "далёка". І тут на мінулым тыдні "Інтэрфакс" ад імя "афіцыйнага Мінска" раптам абвергнуў "мусіруемыя ў шэрагу расійскіх СМІ чуткі аб магчымасці назначэння былога першага расійскага віцэ-прэм'ера Алега Саскаўца на пасаду кіраўніка ўрада Беларусі..." Падставай для з'яўлення чутак стала не толькі тое, што А.Саскавец мае беларускія карані (як і А.Чубайс), але і тое, што ён ва ўрадзе Расіі пэўны час вёў пытанні беларуска-расійскіх адносінаў і паспеў блізка пасябраваць з беларускай элітай... У ранейшыя часы казалі: "Дыму без агню не бывае". Але ў апошнія гады мы змаглі пераканацца, што прымаўка гэтая безнадзейна састарэла: цяпер мы ведаем пэўна — калі з'явіўся "дым", то "агню" хутчэй за ўсё не будзе.

## ПАРАЛЕЛЬ ТЫДНЯ

Баек пра танную расійскую нафту мы за часы курсу на інтэграцыю наслухаліся даволі. І таму крыху (калі не сказаць мацней) дзіўным і нечаканым стала паведамленне "БелаПАН" з параўнаннем цэн на асноўныя нафтапрадукты ў "дружалюбным" Маскве Мінску і "варожым" Кіеве. Аказваецца, у Мінску цэны на паліва на 30—50 працэнтаў вышэйшыя, чым у Кіеве. Да прыкладу, кошт бензіну А-76 у Мінску 0,31 долара за літр, у Кіеве — 0,21, бензіну АІ-95, адпаведна, 0,52 і 0,34... Цікава, што і Беларусь і Украіна нафту атрымліваюць з Расіі. Выснова можа быць толькі такой: альбо Расія "па дружбе" пастаўляе нам нафту значна даражэй, чым Украіне, альбо наш урад празмерна завысіў цэны на паліва.

## ПРЫНЦЫПОВАСЦЬ ТЫДНЯ

Партыя камуністаў беларуская (ПКБ) 18—19 студзеня правяла свой чацвёрты з'езд. Упершыню праходзіў ён ледзь не ў падпольных, канспіратыўных умовах. У дакладзе, выступленнях і рэзалюцыі, прынятай на з'ездзе негатыўна ацэньвалася сацыяльна-эканамічная сітуацыя на Беларусі, падкрэслівалася, што пад выглядам рэферэндуму ў краіне практычна адбыўся дзяржаўны пераварот. Камуністы падтрымалі імкненне да інтэграцыі Беларусі і Расіі, але толькі не за кошт страты Беларуссю незалежнасці Першым сакратаром ПКБ зноў абраны С.Калякін, сакратаром застаўся вядомы сваімі антыпрэзідэнцкімі публікацыямі В.Новікаў. Фактычна гэта азначае, што, нягледзячы на прынцыповую апазіцыйнасць ПКБ цяперашнім уладам, гэтай партыі ўдалося пазбегнуць расколу і застацца адной з самых уплывовых на Беларусі.

## ПРАТЭСТ ТЫДНЯ

Сёння ўсім жыць цяжка. Нават прадпрымальнікам і камерсантам. Дзеля "сацыяльна арыентаванага рынку", дзеля найвялікшай справядлівасці заціскаюць іх улады. То высокімі падаткамі, як было гэта ў ліпені, і тады страйк аб'явілі прыватныя прадпрымальнікі на "Дынама", то пагрозай выгнання з рынку — як адбываецца гэта цяпер на "Камароўцы". 18—19 студзеня прыватныя прадпрымальнікі страйкавалі, пратэставалі супраць рашэння адміністрацыі рынку забараніць з 1 лютага гандляваць тут тым, хто непасрэдна не вырабляе прадукцыю, а перакупляе яе... Згодна ўказа прэзідэнта, перакупляць і гандляваць будуць цяпер толькі супрацоўнікі рынку. Паводле папярэдніх падлікаў, у выніку гэтага каля 12 тысяч чалавек могуць страціць працу. Больш таго, знізіцца канкурэнцыя, а манаполія можа даць толькі стабільна высокія цэны, якія, дарэчы, пайшлі ўжо ўверх, не чакаючы, як вырашыцца канфліктная сітуацыя. Вядома, шмат каму не падабалася мноства яўна "паўднёвых" тавараў на Камароўцы, але, тым не менш, цэны тут былі значна ніжэйшыя, чым у дзяржаўных крамах. Указ ва можа вярнуць нас у "залатыя" савецкія часы. Праўда, тых самых "тавараў" не паменшае, а вось цэны стануць "рынкавыя". Памятаеце гэтае слова ў тагачасным значэнні?



АНОНС

# ПАМЯЦЬ — У МУЗЫЦЫ

Музыка — істота жывая і эмацыянальная. Праз музыку, здаецца, як праз нішто іншае можна захаваць шчырую павагу да традыцый, памяць пра колішніх рупліўцаў нашай культуры, мастацтва. Жывая музыка (спявалі дзеці!) дапамагла знайсці добрыя словы тым, хто сабраўся ў мінулы чацвер на вечарыну ў Купалавым музеі, каб прыгадаць адметную асобу Рыгора Раманавіча Шырмы. Прысвячалася вечарына 105-м угодкам з дня нараджэння гэтага слыннага дзеяча беларускай культуры, асветніка, фальклярыста, харавога дырыжора.

А сёння ўвечары ў Вялікай зале сталічнай філармоніі адбудзецца канцэрт, прысвечаны памяці яшчэ аднаго адметнага музыканта — колішняга галоўнага дырыжора Акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі Юрыя Яфімава. Прагучыць толькі адзін твор — геніяльны Рэквіем Джузепе Вердзі, твор, які любіў і дасканала ведаў маэстра. Выканаўцы — Акадэмічная харавая капэла імя Р. Шырмы (мастацкі кіраўнік Людміла Яфімава, якая шмат робіць для падрыхтоўкі ўжо традыцыйных штогадовых канцэртаў памяці маэстра), Акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі, салісты. Дырыжыруе выдатны музыкант, неўтаймоўны і артыстычны Генадзь Праватораў.

**С. Б.**

# "ДА МАЦІ БОЖАЙ"

Гэта — назва кантаты для салістаў, хору, аркестра і аргана, якую напісаў кампазітар Аляксандр Літвіноўскі на тэксты з малітоўніка кс. Адама Станкевіча. Новы твор, які не мае аналагаў у сучасным беларускім мастацтве, угрунтаваны ў лепшыя класічныя традыцыі вакальна-сімфанічнай, харавой, рытуальнай хрысціянскай музыкі, напісаны свежай пранікнёнай і яснай мовай, — варты ўвагі меламанаў-аматараў і прафесійнікаў. Прэм'ера кантаты "Да Маці Божай" адбудзецца 28 студзеня а 19 гадзіне ў Зале камернай музыкі (касцёл Св. Тройцы ў Мінску). Твор А. Літвіноўскага ўключыў у сваю новую праграму лаўрэат міжнародных фестываляў наш вядомы калектыў "Sonorus" пад кіраўніцтвам Аляксея Шута.

**С. Б.**

ІМПРЭЗЫ

# ГІСТОРЫЯ МАЕ ПАТРЭБУ Ў РЫЦАРАХ...

Адкуль наш род? Пытанне для беларуса, на жаль, зусім не рытарычнае. Не кожны з нас ведае нават свой радавод да пятага калена, не тое што таямніцы беларускай гісторыі...

Уладзімір Арлоў, вядомы беларускі пісьменнік, які працуе ў рэчышчы гістарычнай літаратуры, якраз і адказвае ўсёй сваёй творчасцю на пытанне "Адкуль наш род". Гэтую ж назву мае і ягоная кніжка, што выйшла ў выдавецтве "Бацькаўшчына". Прэзентацыі яе і творчай сустрэчы з пісьменнікам была прысвечана вечарына "Адкуль наш род", якая адбылася ў рамках абанементных сустрэч "Тайна знічнага свята" беларускага паэтычнага тэатра аднаго акцёра "Зніч" у памяшканні Нацыянальнай бібліятэкі 16 студзеня. Вечарыну распачала актрыса Галіна Дзягілева. Яна сыграла ўрывак з монаспектакля "Выгнанне ў рай", прысвечанага лёсу полацкай князёўны Рагнеды. Бралі ўдзел у імпрэзе таксама пісьменнік, навуковец, драматург Пятро Васючэнка, паэтэса Людміла Рублеўская, гітарыст Уладзімір Белышаў. Герой вечарыны, Уладзімір Арлоў, адказваў на шматлікія пытанні гледачоў, сярод якіх быў нават праведзены конкурс на лепшае пытанне. Прысутнічалі на вечарыне і прадстаўнікі выдавецтва, дзякуючы якому з'явілася кніжка "Адкуль наш род".

Пісьменнік пазнаёміў прысутных з некаторымі сваімі творамі, у межах адказаў на пытанні, шмат расказваў пра родны Полацк, які даў выток натхненню, пра шматлікія вандроўкі за мяжу.

На пачатку імпрэзы Рагнеда пакінула на сцэне рыцарскі меч... і гэта было вельмі сімвалічна. У прадмове да кніжкі "Адкуль мы родам", напісанай гісторыкам Паўлам Лойкам, беларуская гісторыя параўноўваецца з паланянкай, якую ўвесь час трымалі ў вязніцы. Але заўсёды знаходзіліся людзі, якія вызвалілі яе на волю — рыцары роднай гісторыі, роднага слова. Да іх ліку належыць, безумоўна, і Уладзімір Арлоў.

Наступная сустрэча абанемента "Тайна знічнага свята" адбудзецца з народным паэтам Беларусі Нілам Гілевічам — 20 лютага, а 16 гадзіне, у памяшканні Нацыянальнай бібліятэкі.

**Н. К.**

ФРАГМЕНТЫ

# ПТУШКА — СІМВАЛ НАДЗЕІ

***Меркаванні пра Беларусь заходніх палітыкаў і палітолагаў, як правіла, расплывістыя з-за няведання прадмета. Прафесару Лонг-Айлендскага універсітэта Джэральду Атласу хапіла месяца, каб зразумець сутнасць нашых праблем і нашага нацыянальнага менталітэту. А прыязджаў ён у Мінск як прадстаўнік новай заходняй навукі — псіхагісторыі. Супрацоўніца газеты "Імя" Вольга Улевіч мела з ім гутарку, вытрымкі з якой мы і прапануем увазе чытачоў.***

**— Што вы назіралі ў Беларусі і якія высновы зрабілі пра гэтую краіну?**

— У любы час у любым грамадстве цыркулюе вялікая колькасць фантазій, якія знаходзяцца ў свабодным палёце. Рэч толькі ў тым, якія з іх будуць, як паветраны шарык, падхоплены моцным ветрам і ўзнімуцца ўгару. За месяц майго знаходжання ў вашай краіне я назіраў дзве асабліва распаўсюджаныя фантазіі. Не вельмі пазітыўныя, затое вельмі цікавыя. Сутнасць першай фантазіі ў тым, што нехта назірае за ўсім, што адбываецца ў Беларусі. Гэта прыкметы пасткі, пра што сведчаць шматлікія вывязы вока, якія можна пабачыць на многіх рэкламных плакатах, на сценах, у якасці ілюстрацый у друку.

Другая фантазія ўяўляе з сябе прыгожую птушку свабоды, якая яшчэ жывая, не развучылася лётаць і спрабуе вырвацца, але да ног яе прывязаны вялізны чыгунны шар, што не дае ёй адарвацца ад зямлі. Гэта фантазія надзеі. (...)

**— І якая з гэтых фантазій мае больш шанцы стаць рэальнасцю?**

— Беларусь занята тым, што ўвесь час азіраецца, а што там ззаду, і я сур'ёзна непакоюся, каб у прыгожай птушкі не зламалася шыя. "Што кажа Расія? Што можа здарыцца, калі памрэ Ельцын? А што, амерыканцы ўсё яшчэ маўчаць?" Тут усе хваляюцца, ці звяртае хто ўвагу на Беларусь. Гэтыя пытанні сведчаць пра бездапаможнасць вашай краіны і яе спадзяванні на тое, што дапамога прыйдзе звонку. Але гэта памылка. Адзіная дапамога, якая можа прыйсці, — дапамога знутры.

**— Як вы можаце пракаменціраваць ініцыятыву Барыса Ельцына наконт аб'яднання Расіі і Беларусі?**

— Калі-небудзь псіхагісторыкі, якія дапамаглі б лідэру зразумець, што адбываецца ў краіне на самай справе, з'явяцца і ў Беларусі. Малаверагодна, каб хворы Ельцын зараз сам прымаў рашэнні. Хтосьці іншы робіць гэта ад яго імені, каб паглядзець, што можа здарыцца, і не несці за гэта адказнасці. Гэта яшчэ адзін паветраны шар. І ад таго, як на ініцыятыву прарэагуюць народы Расіі і Беларусі, залежыць, паляціць гэты шар ці ўпадзе на зямлю. (...)

**— А што ўяўляе сабой псіхагісторыя ўвогуле?**

— Перш за ўсё гэтая навука з'яўляецца добрай гісторыяй. Яна спрабуе выкарыстаць веды іншых дысцыплін для таго, каб зразумець, што адбывалася і што адбываецца з чалавецтвам. Большасць гісторыкаў задае пытанне "што адбылося?" Псіхагісторыка цікавіць, чаму гэта адбылося. (...)

**— Вы гаварылі, што беларускі народ чакае трагедыя?**

— Так, я невыпадкова выкарыстаў гэтае слова. Мне спадабалася тут, і гэта вярэдзіць маю душу, нягледзячы на тое, што я рыхтаваў сябе да бесстаронняга ўспрымання вашай рэчаіснасці. Справа ў тым, што ваша нацыя сама жадае знаходзіцца пад нечым кантролем. А лідэр заўжды ўвасабляе тое, чаго жадае група, у дадзеным выпадку — нацыя. Людзі думаюць, што кантралюемая эканоміка, кантралюемае жыццё дапамогуць ім выйсці са стану бездапаможнасці і дыскамфорту. Таму будзе многа фантазій аб выратаванні, якія амаль заўсёды выяўляюцца ў адным — у думках пра лідэра як пра месію. Але гэта ніколі не з'яўляецца ісцінай".

*"Імя" за 17 студзеня г. г.*

ВЫСТАВЫ

# МІСТЭРЫІ СЯРГЕЯ ПАЛЯКОВА

Ён пачаў працаваць у канцы васьмідзесятых як выхаванец кансерватыўна-акадэмічнай школы Іллі Глазунова. Адразу ж звярнуўся да рускага мадэрну, чым уяўна прыхаваў рэалістычную аснову свайго славянскага пантэону багоў. Драматычны феерверк колеравых квяцістых плям прыцягнуў да яго немалую ўвагу гледачоў. У пачатку дзевяностых мастак рэзка перайшоў на новую плынь, прадэманстраваўшы адыход ад рэалізму да ўласных экзістэнцый і фарматворчасці.

Такім прадставіўся мастак на персанальнай выставе, якую прывезла ў Нацыянальны мастацкі музей Беларусі галерэя Вольгі Хлебнікавай з дапамогай банка "Дзелавая Масква" і пры падтрымцы беларускіх спонсараў. Сам мастак сцвярджае, што для яго адкрыццё выставы ў Мінску — падзея надзвычайная, бо ён не толькі паважае мастакоўскае асяроддзе Мінска, але і, па сутнасці, вяртаецца ў краіну свайго дзяцінства.



Можна, натуральна, паглядзеўшы выставу, паспрачацца аб узроўні абстрактных пошукаў мастака, аб арыгінальнасці яго "фальклорных" работ, адказваючы масквічам на іх часта неапраўдана жорсткі прыём персанальных выставаў беларускіх мастакоў. Але ці не варта для свайго ж гонару адысці ад такога правінцыйнага падыходу да творчых сувязяў? Вольга Хлебнікава, кіраўніца галерэі, бадай, адзіная праявіла ініцыятыву ў аднаўленні цесных зносін з Беларуссю, вось ужо двойчы прывозячы да нас адметныя выставы. Мінулым разам яна прадставіла экспазіцыю "самога" Аляксандра Адабаш'яна, "кінапаплечніка" Сяргея Міхалкова. Цяпер — Сяргей Палякоў прадстаўнік сучаснага пласта маскоўскіх жывапісцаў, непасрэдна звязанага з Беларуссю паходжаннем. Зрэшты, падчас прэзентацыі выставы гэта было не адзінае "адкрыццё". Новапрызначаны Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Расійскай Федэрацыі ў Беларусі спадар Валеры Лашчынін ва ўступным слове згадаў гады сваёй вучобы ў Беларускім дзяржаўным універсітэце (тады яшчэ імя У.Леніна) і "прызнаўся", што менавіта тут, у Нацыянальным мастацкім музеі, ён, будучы студэнтам, падпрацоўваў — разносячы і развешваючы карціны на сценах. Што ж, хацелася б, каб гэтыя згаданыя ім факты біяграфіі не проста спрацавалі на імідж пасла, але і скіравалі яго дзейнасць да большай увагі і падтрымкі ініцыятыў дзеля творчага і культурнага супрацоўніцтва дзвюх краін.

**Н.Ш.**

*На адкрыцці выставы: Пасол Расійскай Федэрацыі В.Лашчынін, дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Ю.Карачун, намеснік міністра культуры В.Гедройц, мастак С.Палякоў.*

З НАГОДЫ

# НЕ ЗАЗІРНУЎШЫ Ў СВЯТЦЫ...

Не шкодзіць усё-такі, спадарове, час ад часу звяртацца да мудрасці народных прымавак. Хоць бы такой, як: "Не зазірнуўшы ў святцы, не бі ў званы".

Вакол нядаўняга паслання прэзідэнта Расійскай Федэрацыі Барыса Ельцына прэзідэнту Беларусі Аляксандру Лукашэнку, стаіць, як стаяў, устойлівы шум, хоць само пасланне ніхто, акрамя адрасата, не чытаў. І кожны рэагаваў на яго па-свойму. Аб'яднальнікі накшталт славянскага сабору "Белая Русь" узмацнілі намаганні на карысць хутчэйшага, ледзь не заўтрашняга аб'яднання дзвюх краін. А ў колах апазіцыі аркестры на поўную моц зайгралі жалобныя маршы і людзі гатовы былі скідаць ужо шапкі, каб праводзіць Беларусь у апошні шлях...

Аднак жа варта было прыгледзецца, "прынюхацца" хоць да таго нямногага, што было вядома з паслання, каб зразумець, што, як кажуць, "яшчэ курачка ў гняздзе..."

Маю ўвагу, да прыкладу, прыцягнула прыгожае замежнае слова — сінхранізацыя (яшчэ больш прыгожае, чым інтэграцыя), якое пракідваецца, казалі, у рабочым дакуменце расійскага прэзідэнта. Адразу згадалася нядаўняя рэпліка старшыні Кабінета Міністраў Расіі В. Чарнамырдзіна, што прагучала на адным з пасяджэнняў: "В конце концов, Беларусь думает синхронизировать с нами свои экономические реформы?"

Сінхранізаваць... Гэта не паставіць стрэлкі гадзінніка ў абедзвюх сталіцах у аднолькавае становішча, гэта працы — на гады. Пры вялікім жаданні. А калі яго няма? І калі праз колькі дзён тэкст ельцынскага паслання стаў вядомы, маскоўскія СМІ адразу загаварылі пра яго незвычайна жорсткі, ледзь не ультыматыўны тон. Патрабаванні Барыса Ельцына аб паскарэнні эканамічных рэформ у Беларусі (па прыватызацыі, акцыяніраванні дзяржаўных суб'ектаў гаспадарання), стварэнні адзінай нарматыўнай базы, уніфікацыі заканадаўства і сінхронным увядзенні падатковага заканадаўства, сінхранізацыі сацыяльных сфер гучалі як "апошняе папярэджанне". І ўсё ж, даючы тэлеінтэрв'ю з нагоды атрымання паслання, прэзідэнт Беларусі сказаў коратка: "Я очень рад, я очень счастлив".

Некаторыя наглядальнікі схільныя былі тлумачыць такую, мякка кажучы, стрыманую рэакцыю Аляксандра Рыгоравіча тым, што Барыс Мікалаевіч перахапіў у яго ініцыятыву ў пытаннях інтэграцыі абедзвюх краін, сыграў на апярэджанне. Маўляў, А. Лукашэнка, які заўсёды адводзіў сабе ў гэтай справе першую ролю, зараз адсоўваецца на другі план. Магчыма, у гэтых развагах ёсць пэўны рэзон, але галоўнае не ў тым. Галоўнае крыецца ў пытаннях, што закранаюць эканамічнае і палітычнае жыццё Беларусі, ставяць яго ў залежнасць ад жыцця краіны замежнай. А гэта наўрад ці можна спакойна вытрымаць чалавеку з такім характарам, як у нашага прэзідэнта.

І яшчэ пра адну падзею, якая, на маю думку, ускосным чынам звязана са згаданай вышэй. Я маю на ўвазе нядаўнюю сустрэчу ў Гомелі прэзідэнтаў Беларусі і Украіны А. Лукашэнкі і Л. Кучмы. Улічваючы досыць напружаныя адносіны паміж Масквой і Кіевам, падкрэсленае дружалюбства, якое прадэманстраваў у Гомелі беларускі прэзідэнт да свайго украінскага калегі, павінна было паказаць "старэйшаму брату", што не надта яго і баяцца, што мы, маўляў, і самі з вусамі. І гэта была не проста поза. Перамовы ў Гомелі і заключаныя там паміж абодвума бакамі пагадненні ў значнай меры накіраваны... на папярэджанне Расіі. Вядома, што Расія на мяжы з Украінай узвяла моцны мытны кардон, і ліквідацыя мытных перашкод паміж Беларуссю і Украінай, аб якой у Гомелі дамовіліся абодва кіраўнікі, дасць зараз украінцам магчымасць праз Беларусь увозіць у Расію тавары без мытных падаткаў. Некаторыя расійскія палітыкі ўжо падлічылі, што на гэтым Расійская Федэрацыя штогод будзе страчваць да 2-3 трыльёнаў рублёў...

І на завяршэнне яшчэ пра адно, што не магло не засмуціць. Сярод маскоўскіх каментатараў, якія выступілі з нагоды ельцынскага паслання А. Лукашэнку і да драбніц узважвалі ўсе "за" і "супраць" далейшай інтэграцыі абедзвюх краін, не знайшлося, здаецца, ніводнага, хто б, схамянуўшыся, вымавіў такія словы: "Панове, а мы гэтымі сваімі развагамі і прагнозамі не зневажаем нацыянальныя пачуцці беларусаў? Гэта ж такая тонкая і датклівая матэрыя..."

Калі б сярод тых каментатараў спрэс былі толькі зюганавы, бабурыны і жырыноўскія, дык тут, як кажуць, "взятки гладки". Але ж толькі глабальнымі інтарэсамі Расіі кіраваліся ў сваіх развагах людзі, што неаднойчы дэманстравалі сваю адданасць дэмакратычным ідэям, да прыкладу, тыя ж тэлевядучыя Мікалай Сванідзе і Яўгеній Кісялёў, не кажучы ўжо пра такіх палітыкаў, як Р. Яўлінскі, Я. Гайдар, А. Чубайс і некаторыя іншыя. Як тут не згадаць яшчэ адну прымаўку, ужо чыста рускую: "Своя рубашка ближе к телу".

**М. ЗАМСКІ**

# СЁННЯ СІТУАЦЫЯ — ІНШАЯ...

Пасля паразы ў вайне з Польшчай бальшавікі прапаноўвалі Пілсудскаму ўсталяваць расійска-польскую мяжу ў раёне Барысава. Хоць Пілсудскі быў палітыкам авантурнага складу, песціў думку пра "Польшчу ад мора да мора", але тут нечакана праявіў разважлівасць, нават мудрасць. Паслухаўшы дарадцаў, што даводзілі яму небяспечнасць сітуацыі, калі Польшча адкрывае рот на кавалак, які няздольная праглынуць і пераварыць; на тэрыторыю, якую немагчыма асіміляваць на працягу жыцця аднаго пакалення, — ён згадзіўся на меншае. Але і тыя беларускія і ўкраінскія землі, што былі ўключаны ў склад Польскай дзяржавы па Рыжскай дамове, Польшча асіміляваць не здолела, а клопату сабе прыдбала. Адной з прычын ваеннай паразы Польшчы ў верасні 1939 года быў і ўнутраны разлад краіны, выкліканы падзелам дзяржавы на ўласна Польшчу і "крэсы". Беларусы і украінцы, якія ў Польшчы былі грамадзянамі другога гатунку, абыякава альбо нават варожа ставіліся да Польскай дзяржавы. Яны не сталі аказваць супраціву арміі, што прыйшла з Усходу...

Сёння, калі ідуць і цягнуцца размовы аб вяртанні Беларусі ў Расійскую імперыю, варта ўспомніць, які вынік мелі небяспечныя геапалітычныя гульні для народа, блізкага да рускіх па менталітэце. Трагедыя 1939 года, гады нямецкай акупацыі і потым палітычнай залежнасці ад Савецкага Саюза палякаў сяму-таму навучылі. У 1921 годзе Польшча і Расія дзялілі між сабою Беларусь, сёння Польшча падтрымлівае незалежніцкія сілы ў нашай краіне. Чакаць такога ад расійскай палітычнай эліты было б вялікай наіўнасцю. Палякі, на ўзроўні сваёй палітычнай эліты, усвядомілі, што лепей мець на мяжы добрага суседа, чым міннае поле; расійцы ж думаюць інакш, мяркуючы па каментарыях іх палітычных лідэраў на ліст расійскага прэзідэнта свайму беларускаму калегу, які па-ранейшаму застаецца ў ліку галоўных палітычных падзей і ў Беларусі, і ў Расіі.

Набыццё Незалежнасці — гэта вынік не толькі самаразвіцця нацыі, але і збегу вонкавых варункаў. У 1918 годзе Польшча была гатова стаць незалежнай краінай, але без падзення трох імперый — Расійскай, Германскай і Аўстрыйскай — гэта было б немагчыма. А стала Польшча суверэннай толькі пасля таго, як атрымала дазвол на суверэнітэт ад Англіі і Францыі — краін-пераможцаў у 1 сусветнай вайне, краін, якія фактычна кіравалі Еўропаю, пакуль зноў не ачунялі Германія і Расія (СССР). Зацікаўленасць Расіі ў аслабленні Турцыі спрыяла адраджэнню і набыццю дзяржаўнасці балканскімі народамі, што калісьці трапілі пад асманскі прыгнёт. Маналітны Савецкі Саюз быў гарантам раз'яднання Германіі — дэмантаж СССР стаў перадумовай уз'яднання дзвюх частак германскай нацыі. Сама Масковія ў сярэднявеччы атрымала шанц на суверэнітэт толькі, калі пачаліся крывавыя раздоры ў Залатой Ардзе, калі "цэнтру" стала не да "ўскраін".

Справа беларускай Незалежнасці таму ідзе так марудна, што дагэтуль ніхто ў свеце, акрамя нас саміх, не быў зацікаўлены ў існаванні суверэннай Беларускай дзяржавы. Пасля бальшавіцкага путчу 1917 года, калі імперыя памяняла афарбоўку і стала "государством рабочих и крестьян", частка заходніх ускраін, скарыстаўшы часовае аслабленне "цэнтра", аддзялілася. Тады Захад узяў пад сваё крыло Фінляндыю, Польшчу, Латвію, Жамойць, Эстонію. Беларусь і Украіну пакінуў Расіі.

Сёння сітуацыя — іншая. Сёння інтарэсы аб'яднанай Еўропы патрабуюць прысутнасці ў ёй Украіны і Беларусі. Больш таго, прысутнасці і Расіі, хоць Расія традыцыйна сябе Еўропе супрацьпастаўляе. Але, зразумела, у Еўропе чакаюць не сённяшнюю Расію — краіну з імперскім імпэтам, з ядзернай зброяй у руках амбіцыйных палітыкаў, з бальшавіцкім менталітэтам і "славянскім" месіянствам. У Еўропе жадаюць бачыць Расію, якая ўмее ладзіць з суседзямі, а бліжэйшыя суседзі Расіі — Беларусь і Украіна.

**В.ГРУШАЎСКІ**

ЭКСЛІБРЫС

# "У БЯЗМЕЖНУЮ ДАЛЬ"

*Кніга пра Максіма Багдановіча. "Асар". 1996.*

**У серыі "Школьная бібліятэка" да 105-х угодкаў з дня нараджэння М.Багдановіча выйшла кніга вершаў, артыкулаў і успамінаў, прысвечаных М.Багдановічу. Укладальнік яе — С.Панізнік. Нягледзячы на тое, што кніга найперш разлічана на школьнікаў, яна атрымалася змястоўнай і цікавай і для больш шырокага кола чытачоў.**

**Трагічнае жыццё і геніяльныя вобразы паэзіі М.Багдановіча натхнілі не аднаго беларускага паэта. І гэтае судакрананне да аўры паэта спарадзіла сапраўдныя каштоўныя пярліны ў нашай паэзіі. Найперш тут трэба згадаць вершы Н.Арсенневай, У.Жылкі, У.Караткевіча, ягоныя знакамітыя радкі:**

***Ты сказаў нам:***
***"Унукі Скарыны,***
***Дзе ваш гонар, моц і краса?***
***Ёсць у вас, як у іншых, святыня.***
***Не давайце святыні псам!"***

**А таксама нашых сучаснікаў Э.Акуліна, Л.Галубовіча, Л.Дранько-Майсюка, Л.Рублеўскай ды іншых.**

**Шкада, не патрапіў у гэтую анталогію выбранага верш А.Мінкіна "У Полацку", адзін з лепшых, на маю думку, вершаў паэта.**

**І наадварот, трапляюцца тут і пэўныя недарэчнасці. Так, Ю.Свірка пісаў у снежні 1981 года, маючы на ўвазе толькі што адкрыты тады помнік паэту:**

***Ён слухае Мінска гаворку,***
***Звыкаецца з ёй, дарагой.***

**Што меў на ўвазе паэт — рускую гаворку, якая, як паводка, залівае Мінск?**

**Можна заўважыць, што калі ў 60-я, 70-я гады асноўнай тэмаю вершаванай багдановічыяны быў Крым, дык у апошнія гады — гэта вобраз Пагоні.**

**Сярод артыкулаў, прысвечаных творчасці М.Багдановіча, варта адзначыць ніколі не друкаваныя ў Мінску бліскучы артыкул А.Навіны, даследаванне С.Станкевіча, а таксама цікавыя артыкулы У.Караткевіча, які з замілаваннем адзначыў, што М.Багдановіч — "ледзь не самая сімпатычная і родная постаць у гісторыі беларускай літаратуры", Н.Гілевіча, А.Мальдзіса, адно з найбольш удалых літаратуразнаўчых эсэ "Загадка Багдановіча" М.Стральцова.**

**Кніга дапамагае лепей усім нам усвядоміць тое, што М.Багдановіч — гэта нашыя, чыста беларускія гонар і сумленне. І менавіта таму, як піша Г.Бураўкін, "ворагі ягонай Бацькаўшчыны, а значыць і ягоныя, спярша замоўчвалі і ўсяляк прыніжалі ягоны дар. Яны пасля валасатымі пальцамі сталінскіх інквізітараў вырывалі ягоны партрэт і ягоныя вершы са школьных падручнікаў. Яны пяліся нацягнуць на ягоныя худыя плечы суконную робу нацыяналіста". Дык не будзем жа саромецца гэтай "суконнай робы" любові да нашае Бацькаўшчыны, бо тое нам запавядаў наш Максім Багдановіч.**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

## КАРЫСТАЕЦЦА АЎТАРЫТЭТАМ



**Мікалай Белікаў — мастак ад прыроды. Увагай гледачоў карыстаюцца яго работы з дрэва, напісаныя ім палотны. У гарадскім пасёлку Акцябарскі ён узначальвае раённую мастацкую майстэрню, краязнаўчы музей, карцінную галерэю, а цяпер і зноў ствараемы Цэнтр гісторыі і культуры, якія афармляюць мясцовыя майстры пад кіраўніцтвам Белікава.**

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА*

## КАБ ЛЕПШ СПАЗНАЦЬ ЛІТАРАТУРУ

**І не толькі літаратуру, а і само жыццё, якое яна, безумоўна, адлюстроўвае — гэтай мэце прызначаны падручнік-хрэстаматыя "Родная літаратура" для 9 класа, складзены Г. Гарадко, У. Лебедзевым і В. Ляшук і зацверджаны Міністэрствам адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь.**

**Кніга пабудавана такім чынам, што ў ёй прыводзяцца асноўныя звесткі з біяграфіі пэўнага аўтара і змешчаны яго партрэт, даецца кароткая характарыстыка яго найбольш значных твораў, ёсць развагі крытыкаў пра іх ідэйны змест і мастацкія вартасці, выказванні саміх мастакоў слова. І, канечне ж, публікуюцца творы, праўда, часам у скарочаным варыянце ці прадстаўленыя ўрыўкамі, паколькі, зразумела, немагчыма апублікаваць цалкам раман, аповесць ці паэму.**

**Каб актывізаваць мысленне вучняў, дапамагчы ім лепш зразумець сэнс таго, пра што хацеў сказаць пісьменнік, засяродзіць увагу на галоўных момантах, развіць культуру вуснага і пісьмовага маўлення, як да асобных твораў, так і да раздзелаў прыводзяцца пытанні і заданні.**

**Асобнымі раздзеламі ў хрэстаматыі прадстаўлены Уладзімір Караткевіч, Анатоль Вярцінскі, Іван Пташнікаў, Вячаслаў Адамчык, Іван Чыгрынаў, Віктар Карамазаў, Рыгор Барадулін, Васіль Зуёнак, Барыс Сачанка, Генадзь Бураўкін, Міхась Рудкоўскі Янка Сіпакоў, Міхась Стральцоў, Анатоль Кудравец, Данута Бічэль-Загнетава, Віктар Казько, Леанід Дайнека, Ніна Мацяш, Генрых Даліловіч, Яўгенія Янішчыц, Алесь Жук, Аляксей Дудараў, Уладзімір Арлоў. Паколькі беларуская літаратура ў праграме сярэдняй школы цяпер вывучаецца ў кантэксце сусветнай, у томе знайшлося месца такім слынным пісьменнікам, як Антуан дэ Сент-Экзюпеpы і Рэй Брэдберы.**

## ПАСЯДЖЭННЕ КАМІСІІ

**Адбылося пасяджэнне мемарыяльнай камісіі Саюза пісьменнікаў па ўвекавечанні памяці народнага пісьменніка Беларусі Івана Чыгрынава. Вырашана прадоўжыць работу па падрыхтоўцы да выпуску Збору твораў пісьменніка ў шасці тамах. Камісія звярнулася да Мінскага гарвыканкама і Міністэрства культуры з прапановай аб паскарэнні праектавання і стварэння надмагільнага помніка, а таксама мемарыяльнай дошкі на доме, дзе жыў І. Чыгрынаў.**

**Саюз пісьменнікаў і Беларускі фонд культуры звяртаюцца ў Мінскі гарвыканкам і Магілёўскі аблвыканкам з прапановай аб наданні адной з вуліц у Мінску і Магілёве імя І. Чыгрынава. Мяркуецца сумесна з Касцюковіцкім райвыканкамам арганізаваць сустрэчу з грамадскасцю раёна з нагоды надання Касцюковіцкай бібліятэцы імя пісьменніка.**

**Выказана просьба да Міністэрства культуры і Нацыянальнага дзяржаўнага тэатра імя Янкі Купалы прадугледзець у рэпертуары тэатра на 1997 год паказ спектакля па п'есе І. Чыгрынава "Звон — не маліТва".**

# ЖЫЦЦЁ НА ЗВАЛЦЫ

Амаль на кожны выпадак жыцця ў нашым грамадстве існуюць правільныя паперы, якія рэгламентуюць, раяць, абяцаюць, папярэджваюць... Да прыкладу, ёсць дакументы, паводле якіх захаванне таксічных прамысловых адыходаў першага і другога класаў небяспечнасці на палігонах-звалках забаронена, бо гэта выклікае незваротныя змяненні ў навакольным асяроддзі і ставіць пад пагрозу здароўе людзей. Па вялікім рахунку, такіх адыходаў наогул не павінна быць; Ёсць нават адпаведная пастанова яшчэ Саўміна БССР ад 1988 года аб іх утылізацыі непасрэдна на прадпрыемствах. Але папера гэтая засталася паперай, бо выключыць утварэнне шкодных адыходаў нельга, у нас няма безадыходнай тэхналогіі, няма нават праграмы аб пераводзе прадпрыемстваў на такую тэхналогію. Значыць, колькасць адыходаў будзе расці.

Вось так: невысокая культура вядзення гаспадаркі — шмат адыходаў. І наадварот. Тут самая цесная ўзаемасувязь. Мендзялееў неяк сказаў, што "няма адыходаў вытворчасці, ёсць незакончаны яе прадукт". Значыць, адыходы — катэгорыя не толькі эканамічная, а і сацыяльная. Але паколькі ў нашых умовах, як ужо згадвалася, цяжка давесці вытворчасць да поўнай безадыходнасці, то ўзнікае складаная праблема: што рабіць з тымі адыходамі.

Заўважым, што да 70-х гадоў праблемы гэтай нібыта і не існавала. А калі больш дакладна, яе проста не заўважалі, ці рабілі выгляд, што не заўважаюць. Дарэчы, не толькі ў нас — ва ўсім свеце.

Але гадоў дваццаць—дваццаць пяць таму вучоныя Галандыі і ЗША выявілі, што з даўніх звалак у глебу, паверхневыя і падземныя воды, у паветра трапляюць вельмі небяспечныя атрутныя рэчывы. Факты гэтыя выклікалі шырокае грамадскае абурэнне. Тым больш, што хутка была ўстаноўлена прамая сувязь з імі шматлікіх выпадкаў захворвання дзяцей, што жылі паблізу тых звалак. Людзі ўспрынялі гэту нечаканую для сябе рэальнасць вельмі балюча і насцярожана. У многіх заходніх краінах адразу былі зроблены захады па вырашэнні праблем адыходаў з падключэннем да гэтай справы вучоных, спецыялістаў, вытворцаў. У самы кароткі тэрмін многія вытворчыя працэсы былі пераведзены на безадыходную тэхналогію. Да прыкладу, на месцы звычайных звалак былі пабудаваны перапрацоўчыя комплексы на газе і электраэнергіі, выпрацаваных тут. У ЗША, напрыклад, у 1983 годзе для перапрацоўкі, утылізацыі і захавання адыходаў выдаткоўвалася шэсць мільярдаў долараў, а ў 1990 годзе — ужо адзінаццаць мільярдаў. Сёння ў гэтых краінах створана цэлая індустрыя, якая працуе з адыходамі.

У нас жа факты забруджання навакольнага асяроддзя адыходамі вытворчасці, калі гаварыць па вялікім рахунку, не ўспрынялі як з'яву небяспечную. Па-першае, праўда пра ўсё гэта замоўчвалася, а па-другое, у савецкіх людзей была выхавана і ўстаялася адметная псіхалогія: усё дрэннае адбываецца там, у дзікім капіталістычным свеце, у нашай жа дзяржаве на першым плане — клопат аб людзях. Як гэта ні сумна, такая псіхалогія дае сябе адчуваць і сёння, калі краіну напаткала экалагічная катастрофа. І гэта не толькі чарнобыльская авірыя, а і паўсямеснае атручванне ўсяго, што нас акружае, — паветра, вады, глебы і г.д. У выніку сёння можна гаварыць аб пагрозе існавання самой нацыі.

Праўда, у 1984 годзе ўрадам Беларусі ўпершыню была прынята пастанова аб упарадкаванні работ па ўтылізацыі, абясшкоджванні і захаванні таксічных прамысловых адыходаў. Прадугледжвалася нібыта ўсё, што трэба было зрабіць у такой сітуацыі. Цяпер ужо, з вышыні гадоў, добра відаць, што гэта было не болей, чым блеф. Пракукарэкалі моцна, але світанак так і не наступіў.

І што маем? За апошнія гады на Беларусі выпрацавана і назапашана вялізная колькасць розных адыходаў. Згодна з апошнімі дадзенымі, у 1993 годзе, да прыкладу, іх налічвалася 23 мільёны тон. Перапрацавана і выкарыстана з гэтай колькасці толькі 2,8 мільёна, на палігоны адпраўлена ўсяго 4,5 мільёна тон.

Сярод гэтых адыходаў вялікая ўдзельная вага прыпадае на высокатаксічныя, якіх за год збіраецца па рэспубліцы больш як паўтара мільёна тон. Прычым, трыццаць працэнтаў з іх — першага і другога класаў небяспечнасці. Атруту гэтую або складзіруюць на прадпрыемствах, або вывозяць на звычайныя звалкі. Напрыклад, МТЗ ужо гадоў шаснаццаць вывозіць на звалку гарэлую зямлю, якая з'яўляецца таксічным адыходам і паводле існуючых пастаноў выкідваць яе на звычайныя звалкі забаронена. Праўда, у рэшце рэшт у самавольства трактаразаводцаў умяшалася прыродаахоўная пракуратура і аштрафавала прадпрыемства на 200 мільёнаў рублёў. Але ж ці вырашыла гэта праблему? Наладзіць утылізацыю адыходаў МТЗ не ў стане і таму будзе вывозіць тую гарэлую зямлю туды, куды і вывозіў.

Пра гэта ведаюць і ўлады, і прыродаахоўныя органы. І заганная сістэма чамусьці ўсіх задавальняе: адны выкідваюць небяспечныя адыходы куды папала, другія, час ад часу, за гэта іх штрафуюць.

Але гульні з адыходамі могуць скончыцца кепска. Нельга забываць, што Беларусь лічылася і лічыцца рэгіёнам вялікай хіміі. Тут зусім нядаўна выпускалася кожная пятая тона былога агульнасаюзнага аб'ёму мінеральных угнаенняў, кожная другая тона калійных соляў, амаль трэць саюзнага выпуску хімічных валокнаў... Уся гэтая вытворчасць вызначаецца вялікай колькасцю шкодных адыходаў, горы якіх скапіліся ў Салігорску, Гомелі, Гродне і г.д.

А што рабіць з тысячамі тон ядахімікатаў, якія або забаронена выкарыстоўваць ці сталі непрыгоднымі для выкарыстання? На якія звалкі вывезці, напрыклад, каля сямісот тон такіх рэчываў, што назапасіліся ў Мінскай вобласці?

Праўда, у пачатку дзевяностых гадоў пачалі стварацца вытворчыя комплексы па абясшкоджванні, утылізацыі і захаванні таксічных адыходаў. Менавіта комплексы, а не палігоны і звалкі. Былі вызначаны тэрыторыі, дзе можна іх будаваць, але супраць гэтага паўсталі мясцовыя органы ўлады. Не — і ўсё! Маўляў, нашым людзям і так надрэнна жывецца, ім не трэба перапрацоўчыя комплексы, яны прывыклі да звалак і псіхалагічна і маральна.

Цяпер чуваць бадзёрыя галасы афіцыйных асоб: так, маўляў, гэта сфера дзейнасці выпала з поля зроку дзяржаўнага кіравання. І тут жа супакойваюць: Кабінет Міністраў зацвердзіў дзяржаўную праграму па эканамічным і экалагічным абгрунтаванні выкарыстання адыходаў. Ну і што? Колькі было такіх правільных рашэнняў і праграм? А звалкі, і старыя, з першых пасляваенных гадоў, і новыя, арганізаваныя і неарганізаваныя, на тэрыторыях заводаў і проста ў лясах ці ля дарог — існуюць. Цэлая сістэма звалак. І мы сярод іх — са звалачнай псіхалогіяй. У Барысаве і Жодзіне, да прыкладу, звалкі арганізавалі проста на балоце. Хто аўтар такой "геніяльнай" ідэі — невядома. Гэтак жа на грунтавой вадзе знаходзяцца звалкі ў Слуцку, Мядзелі, іншых гарадах. Лабараторнае абследаванне гэтых тэрыторый ніколі не праводзілася. І пры такой акалічнасці, як бачым, знаходзяцца людзі, якія даказваюць, што перапрацоўчыя комплексы больш небяспечныя, чым звалкі. Дзікунская логіка: схаваць у балоце — добра, пабудаваць перапрацоўчы завод — дрэнна. Прыродаахоўныя органы лічаць лепшай формай захавання адыходаў палігоны, бо тут прадугледжваецца плёначны падсціл, засыпанне адыходаў грунтам і г.д. Ды на самай справе — гэта тая ж звалка. Засыпай пяском таксічныя адыходы ці не засыпай — яны ўсё роўна трапяць у зямлю і ваду, атруцяць іх.

Дзіўна неяк атрымліваецца: на першы погляд, быццам нешта і круціцца ў дзяржаўнай бюракратычнай машыне, вывучаецца замежны вопыт, выдаюцца нават рэкамендацыі, прымаюцца рашэнні, праводзяцца розныя калегіі, а вось выніку няма. Нават уздзеянне звалак на навакольнае асяроддзе, на здароўе людзей ніколі не вывучалася і не вывучаецца. Праўда, вучоныя спрабуюць нешта рабіць, імкнуцца даследаваць гэтую праблему, прапаноўваюць выкарыстоўваць буйныя звалкі як радовішчы па здабычы біягазу (з адной тоны адыходаў атрымліваецца да 200 кубаметраў газу), толькі гэта, здаецца, таксама нікому непатрэбна.

Здаецца, зусім нядаўна, у сямідзесятых, у справе барацьбы са шкоднымі адыходамі мы былі ўпоравень з усімі ў свеце. Чаму ж адны краіны адразу зрабілі ўсё, каб вырашыць гэтую праблему, а мы неяк затаіліся, уцяклі ад рэальнасці? Кажуць: Захад тэхнічна больш развіты, больш цывілізаваны. Так, гэта справядліва. Але, разам з тым, трэба ж неяк дбаць і нам пра інтарэсы сваіх людзей, пра іх здароўе і якасць жыцця.



*Фота А. Мацюша*

**Алесь КАЗАННІКАЎ**

## ПЕРАКЛАДАЕ НА СЛАВАЦКУЮ МОВУ

**Праўда, Гелена Крыжанава-Брындзава вядомая ў Славакіі не толькі як перакладчык. Яна — аўтар кнігі паэзіі "Малітва на шчасце", зборнікаў казак, апавяданняў для дзяцей "Макара", "Душан" і іншых кніг. Тым не менш яе стасункі з Беларуссю тычацца якраз творчых кантактаў і ўзаемасувязяў. У прыватнасці, для зборніка беларускай паэзіі "Моваю сэрца", што выйшаў у 1977 годзе, яна пераклала разам з Ю. Андрычыкам асобныя творы М. Танка, П. Броўкі, У. Караткевіча, М. Аўрамчыка, Р. Барадуліна, А. Вярцінскага, В. Зуёнка, Я. Сіпакова — усяго 22 аўтараў. З творчасцю ж самой Г. Крыжанавай-Брындзавай беларускі чытач знаёмы дзякуючы У. Караткевічу.**

**У гэтыя дні Г. Крыжанава-Брындзава адзначыла 75-годдзе.**

## У ПАЭТЫЧНАЙ СЕРЫІ "СВЯТАЯНСКАЯ"




**Беластоцкае аддзяленне Саюза польскіх пісьменнікаў распачало паэтычную серыю "Святаянская", у якой выдае творы ў перакладзе на польскую мову. Кожная назва кнігі мае свой парадкавы нумар. У 1996 годзе выйшла чатыры кнігі, сярод іх — Яна Чыквіна і Галіны Твардовіч. Сёлета запланавана дванаццаць аўтараў. Рыхтуецца да друку кніга вершаў Алеся Разанава ў перакладзе Я.Чыквіна, якія ўжо змяшчаліся ў польскай перыёдыцы.**

**Беластоцкае аддзяленне Саюза польскіх пісьменнікаў мяркуе і надалей кожны год выдаваць адну-дзве кнігі паэтаў з Беларусі.**

**Н.К.**

## БЕЛАРУСКАЯ НАВУКА І СУЧАСНАСЦЬ

**Да 27 студзеня ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Я. Коласа Акадэміі навук Беларусі будзе працаваць выстава "Беларуская навука і сучаснасць". На выставе прадстаўлены навуковыя выданні, якія ўбачылі свет у 1991—1996 гг.: манаграфіі, зборнікі матэрыялаў навуковых сімпозіумаў і канферэнцый, энцыклапедыі, даведнікі, слоўнікі, бібліяграфічныя паказальнікі. Арганізатары пастараліся падабраць як мага паўней літаратуру па прыродазнаўстве, гуманітарных навуках, тэхніцы. Прапануюцца працы, якія былі выданы не толькі на тэрыторыі Беларусі, але і за яе межамі. Асобны раздзел прысвечаны артыкулам беларускіх вучоных у замежным друку. У дэманстрацыйным рэжыме можна азнаёміцца з магчымасцямі баз даных "Навука і навукова-даследчая работа ў Беларусі", дзе адлюстравана бібліяграфічная інфармацыя аб выданнях, прысвечаных гісторыі і сучаснаму стану асобных галін беларускай навукі, і базай даных "Вучоныя АН Беларусі", што дае звесткі аб вучоных, якія працуюць у галіне прыродазнаўства і тэхнікі. Жадаючыя маюць магчымасць самастойна папрацаваць з базамі даных, азнаёміцца з іх зместам.**

**Юлія МАКУШЫНСКАЯ, супрацоўнік аддзела навукова-арганізацыйнай работы ЦНБ АН Беларусі**

ЗНАХОДКІ

Мар'ян ВІЖ

# НЕВЯДОМЫ ЧАРОТ

*ДА 100-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ПАЭТА*

У гісторыі айчыннай літаратуры Міхась Чарот застанецца палкім рэвалюцыйным рамантыкам. Яго лепшыя вершы — "гімны... рэвалюцыі, будаванню, песні сонечных паходаў" (Барыс Мікуліч). Міхась Зарэцкі вызначыў ягоную паэзію як "звонкую, буяную творчасць". Чарот, як ніхто, "цудоўна апеў ранак савецкага ладу" (Міхась Ярош).

Праўда, нават самыя сумленныя і дасведчаныя нашы літаратуразнаўцы раней не мелі магчымасці адкрыта сказаць, што менавіта гэты дзяржаўны лад, увабраўшыся ў пачварную моц, фізічна знішчыў Чарота разам з сотнямі іншых таленавітых і самабытных прадстаўнікоў беларускай нацыянальнай культуры, ці бязлітасна заганяў песняроў у сталінскія гулагі, адкуль жывымі выйшлі адзінкі. Глуха замоўчвалася, што камуністычна-савецкі таталітарны рэжым надоўга схаваў плён іх творчасці ад народа. Некаторыя даследчыкі адзначалі, што ў спадчыне Чарота далёка не ўсё мае высокую вартасць, што ў аўтара нямала прастолінейных, рытарычна-агульных вершаў, што паэту нярэдка проста не ставала майстэрства (Навум Перкін). Гэта таксама цалкам адпавядае сапраўднасці, бо нялёгкае выпрабаванне часам вытрымалі толькі лепшыя ягоныя творы, напісаныя якраз у пару "ранку савецкага ладу" — у перыяд вызвалення Бацькаўшчыны ад польскіх акупантаў, у ходзе шырокага ажыццяўлення ўсеахопнай беларусізацыі, узбуйнення тэрыторыі БССР, на фоне масавага народнага ўздыму, што назіраўся працягам 20-х гадоў, пры НЭПе, да пачатку прымусовай калектывізацыі, да так званага раскулачвання і татальнага ўсталявання жорсткай камуністычнай дыктатуры. Яшчэ такі штрых. Шэраг даследчыкаў аднадушна сцвярджалі, што ў тагачасных творах Чарота бачны прыкметны ўплыў вялікага Янкі Купалы. Дарэчы, у згаданай акалічнасці пераканаўся і я, чытаючы ў архіве раней невядомы тэкст паэтычнай драмы "На Купалле", найбольш удалыя месцы якой можна смела, відаць, параўнаць толькі з бессмяротнай купалаўскай "Паўлінкай". Але аб гэтым — пазней.

Асабліва плённымі для Міхася Чарота сталі дваццатыя гады, калі ён піша гераіка-рамантычную паэму "Босыя на вогнішчы" (1921 г.), дзе адчуваецца моцны ўплыў славутай паэмы Аляксандра Блока "Дванаццаць", калі працуе над паэтычнай драмай "На Купалле" (пастаўлена ў 1921 г., пазней на тэкст п'есы створана опера "Кветка шчасця"), калі паводле сваёй аповесці "Свінапас" сумесна з рэжысёрам Юрыем Тарычам ён робіць сцэнарый першага беларускага мастацкага фільма "Лясная быль", ажыццёўленага ў 1926 г.

У паэтычных радках Чарота ёсць і яснае аўтарская ацэнка прызначэння ўласнай творчасці:

***Мае песні — песні буры,***
***Гоман лесу ў непагоду,***
***Страшны посвіст злой віхуры,***
***Смелы кліч майму народу.***

***Мае песні — песні волі,***
***Гімн паўстаўшых на прадвесні...***
***Хай нясецца, хай нікoлі***
***Не загіне вокліч песні!***

Натуральна, тут можа ўзнікнуць пытанне: чаму ж сталіншчына без жалю знішчала паэта, чые творы літаральна перапаўняў рэвалюцыйны пафас і якія, як быццам, зусім не супярэчылі камуністычнай ідэалогіі? Недвухсэнсоўны адказ мы знойдзем ужо ў адным з першых друкаваных вершаў Чарота "Звон" (1919 г.), дзе аўтар, звяртаючыся да свайго народа, горача заклікае:

***Зазвані моцна, звон, загудзі,***
***Каб пачулі цябе на ўвесь край,***
***Беларуса хутчэй разбудзі,***
***Хоць цяпер яму спаць ты не дай!***

***Пагляздзі, як сусед пачаў жыць,***
***Што нядаўна нявольнікам быў.***
***Ён не спаў, — і цяпер ён не спіць,***
***Усім кажа, што яшчэ жыў.***

***Кінь саромецца мовы сваёй,***
***Звацць сябе беларусам пачні,***
***Папрацуй над сялібай сваёй,***
***А пасля з ціхатой адпачні!..***



*Міхась Чарот па заканчэнні Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі. Пачатак 1917 г. (друкуецца ўпершыню).*

ЗГАДКІ

# "МЯНЕ ШЧАСЦЕМ НЕ ПАРАДАВАЛА ДОЛЯ"

"Ён нарадзіўся здольны малявацьь, кампанаваць музыку, складаць словы ў вершы і песні, прагны слова песеннага, слова роднага", — гэтак пачаў Алег Лойка сваю прадмову да зборніка С.Новіка-Пеюна "Заўсёды з песняй". Так, гэта быў таленавіты мастак, чые карціны з'яўляюцца ўвасабленнем спакойнай і мудрай гармоніі жыцця, якой быў пазбаўлены сам творца, музыка, душа якога заўсёды імкнулася да песні як да адзінага выйсця і паратунку ў ліхія часы, і паэт — аўтар узнёслых, шчырых, прачулых вершаў пра волю да шчасце, якога няма, складзеных за кратамі і на высылках.

Новік-Пяюн належаў да нацыянальна-вызваленчага руху Заходняй Беларусі. Як паэт ён заявіў аб сабе менавіта ў той час, вызваленчая барацьба і свабодалюбівыя ідэі якога выклікалі да жыцця вершы. Але было нешта і раней, бо паэтам-змагаром можна стаць, а не нарадзіцца.

У 1918—1924 гадах Сяргей Новік вучыўся ў Нясвіжскай гімназіі. Ён быў летуценным, уражлівым юнаком таго ўзросту, у якім мала хто раз не паспрабуе скласці верш. І вось прызнанне самога паэта:

"З маленства я прывык быць адзінокім. Гэта адзінота развіла ва мне назіральнасць і летуценнасць. І вось, падпарадкоўваючыся першым уражанням, у маім розуме міжволі прамільгнула думка намаляваць карыкатуру аднаго з выкладчыкаў... Намаляваўшы карыкатуру, я пачаў сёе-тое прыдумляць да яе. Калі я напісаў адну страфу, то міжволі заўважыў, што ў мяне атрымалася хоць няважная, але ўсё ж — рыфма... Разахвочаны, я стаў пісаць далей..." А далей былі не толькі эпіграмы, але і яшчэ наіўныя, недасканалыя, аднак прывабныя сваёй эмацыянальнасцю ды шчырасцю лірычныя вершы. Усё гэта запісвалася ў сшытак і аздаблялася, дарэчы, выдатнымі малюнкамі.

У 1925—1926 гадах Сяргей Новік вучыўся на беларускіх настаўніцкіх курсах у Вільні. І вось тады, відаць, стала зразумелым, што паэзія для яго не застанецца проста юнацкім захапленнем. З 1926 года ён пачынае многа пісаць, пастаянна і актыўна выступае ў друку пад псеўданімамі "Сяргей Пяюн" і "Малады Дзядок" і паступова становіцца адным з актыўных літаратараў таго часу. Адно трэба адзначыць: разам з заклікальнасцю, уласцівай творчасці ўдзельнікаў той заходнебеларускай агульнай паэтычнай плыні, у вершах Новіка-Пеюна з'яўляюцца лірызм і настраёвасць, характэрныя для яго паэзіі ўвогуле.

***У небе срэбнаю касой***
***Прарэзаў месяц хмуры-хмары,***
***І паліліся паласой***
***На дол загадкавыя чары.***

*("Казка")*

У тым жа 1926 годзе Новік-Пяюн стварыў у родных Лявонавічах беларускі народны хор, які існуе і дагэтуль, і беларускі народны тэатр. Акрамя таго, ён арганізаваў гурток ТБШ, беларускія бібліятэкі і тайныя школы ў Лявонавічах і суседніх вёсках. За ўсё гэта і быў асуджаны судом на 5 год высылкі на Памор'е.

Але гэта не стала перашкодай для актыўнай творчай працы. У гэты час С.Новік-Пяюн супрацоўнічаў з віленскім часопісам для дзяцей "Заранка", які рэдагавала Зоська Верас. Супрацоўнічаў



*С. Новік-Пяюн, Якуція, снежань 1953 г.*

*Артыкул падрыхтаваны на аснове архіўных матэрыялаў Сяргея Новіка-Пеюна, перададзеных Дзяржаўнаму музею гісторыі беларускай літаратуры спадкаемцай Вольгай Міхайлаўнай Сугойдзь-Зубовіч.*

Пагадзіцеся, што і сёння, праз шмат дзесяцігоддзяў цытаваныя радкі паэта маюць надзвычайную, абвостраную і першасную важнасць для Беларусі. Я лічу, што якраз з гэтага верша пачынаецца менавіта той "невядомы Чарот", да спасціжэння значнасці якога дагэтуль амаль нічога не зроблена. Міхась Чарот, іншымі словамі, быў перш за ўсё беларусам, а толькі пасля — камуністам. Рэвалюцыя, рэзкая сацыяльная ломка грамадскасці паэтам рамантычна атаясамляліся з рэалізацыяй вялікай ідэі нацыянальнага адраджэння роднай Бацькаўшчыны. А гэта, несумненна, выклікала б непазбежны канфлікт з уладамі, якія на бяскрайніх абшарах СССР з канца 20-х гадоў узялі цвёрды курс на ўсталяванне аднаасобнай, жорсткай камуністычнай тыраніі, на паўсюднае выхаванне любымі сродкамі замбіраваных homo sovetikus. Такім чынам, трагічны лёс паэта аказаўся гістарычна прадвызначаным.

Паняцце "невядомы Чарот" істотна дапаўняе таксама змест тых пяці твораў, якія раней не ўключаліся ў яго кнігі, ці ўвогуле не друкаваліся. У канцы сёлетняга лета мне пашчасціла знайсці іх сярод дакументаў асабістага фонду Чарота ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва. Вядома, для ўзважанага і грунтоўнага вывучэння знаходак патрабуецца час. Але пэўныя высновы можна зрабіць ужо зараз.

Найбольшай удачай, бясспрэчна, з'яўляецца выяўленне пяцідзесяці машынапісных старонак вершаванай драмы паэта "На Купалле", аб якой у "Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі" (т. 5, Мн., 1987 г., стар. 517) чытаем: "Шырокае прызнанне заваявала народная драма Чарота "На Купалле" (напісана ў 1921г., не збераглася, пастаўлена БДТ у 1921 г., адноўлены тэкст апублікаваны ў часопісе "Полымя", 1982 N 2)". Значыць, тут мы маем справу з выпадкам, калі пацвердзілася справядлівасць старога, добрага выслоўя, якое гаворыць, што напісанае — застаецца, што рукапісы не гараць. Прычым, гэта, відаць, адзіны твор беларускай драматургіі, які быў спачатку адноўлены паводле ўспамінаў ветэранаў сцэны, а ўжо затым знойдзены рукапіс.

Які ж рэзананс у свой час выклікала наз-ваная драма, што трывала лічылася згубленай? Ва ўжо згаданым нумары "Полымя" на гэты конт дасведчана выказаўся аўтарытэтны тэатразнаўца Барыс Бур'ян. "Дваццатага лістапада 1921 года Мінск быў узрушаны, — пісаў ён, — прэм'ерай п'есы "На Купалле" Міхася Чарота на сцэне... Беларускага дзяржаўнага тэатра. Быў узрушаны, бо адразу па горадзе пайшла пагалоска аб тым, што такі спектакль варта абавязкова пагледзець кожнаму, хто любіць роднае слова, родную песню, каго вабіць высокае пачуццё чалавека. З таго дня спектакль зрабіўся вядомым, нават легендарным. Цяпер аб ім пішуць гісторыкі і даследчыкі тэатра, біёграфы рэжысёра Еўсцігнея Міровіча. Ды толькі заўсёды пры гэтым робіцца крыўдная агаворка. Маўляў, тэкст драмы "На Купалле", якая пры жыцці аўтара не друкавалася, а толькі ставілася на сцэне, на жаль, страчаны. Тое ж сустракае чытач, калі знаёміцца з крытычнымі і біяграфічнымі матэрыяламі пра самога Міхася Чарота: тэкст драмы згублены".

А цяпер, выказваючы вялікую ўдзячнасць старым акцёрам К.Пуроўскаму і К.Кулакову, з дапамогай каго ў 1982 годзе зроблена спроба аднаўлення драмы "На Купалле", спытаем: што ж яны ўзнаўлялі — першапачатковы аўтарскі тэкст п'есы, ці тое, што ішло на сцэне, г.зн. увасабленне задумы аўтара праз рэжысёрскую сцэнаграфію Еўсцігнея Міровіча? Напэўна, другі варыянт найбольш верагодны, бо і зараз нярэдка здараецца, калі пры тэатральнай альбо кінематаграфічнай пастаноўцы твора ад аўтарскай задумы застаюцца, як кажуць, рожкі ды ножкі... Нават павярхоўнае параўнанне адноўленай драмы, апублікаванай часопісам "Полымя", са знойдзеным у архіве тэкстам твора канчаткова пераконвае, што рэканструяваны паводле ўспамінаў сюжэт значна адрозніваецца ад нядаўна выяўленых архіўных матэрыялаў, якія пачынаюцца з надпісу: "М.Кудзелька, музыка Тэраўскага; "На Купалле" (Музыкальная драма ў 3-х актах)".

Два словы пра тое, як трапіла тонкая, на 76 старонак блакітная папка ў асабісты фонд Міхася Чарота архіва-музея. Літаратурным творам у папцы папярэднічае паперка, якую цытуем на мове арыгінала: "25.10.1984 г. хранитель фондов партархива Института истории партии при ЦК КПБ... передала заведующей отделом комплектования фондов Государственного архива-музея литературы и искусства БССР... одно дело на 76... листах — драма М.Куделько "На Купалле" из неописанных, нефондированных. Акт составлен в 2-х экземплярах. 1-й экз. — партархиву ИИП при ЦК КПБ, 2-й экз. — ГАМЛИ БССР". Уверсе стаіць стандартны штамп інстытута гісторыі партыі, але нумар справы, фонду і вопісу, пад якімі дакументы доўгі час захоўваліся ў сакрэтным, недаступным даследчыкам партархіве, старанна зацёрты. Перад намі, дарэчы, тыповая ў падобных варунках бальшавіцкая подласць, якая мае на мэце назаўжды схаваць канцы ў ваду, зрабіць безвыніковымі магчымыя спробы навукоўцаў высвятліць акалічнасці, пры якіх частка спадчыны без віны расстралянага пісьменніка невядома чаму аказалася не дзе-небудзь, а непасрэдна ў цэнтральным рэспубліканскім партархіве, пакуль лозунгі гарбачоўскай перабудовы, нарэшце, не вырвалі матэрыялы з нябыту.

Адзначце, што ў перадатачным акце гаворка ідзе выключна аб драме М.Чарота "На Купалле", надрукаванай, паўторым, на пяцідзесяці старонках і падпісанай сапраўдным прозвішчам аўтара. Але ж драма — толькі дзве трэці блакітнай архіўнай папкі. Астатняе месца там занята паэмай "Кепска будзе" (14 старонак), вершамі "У астрозе" і "Быў у чысту" (каля 10 старонак) і невялікім публіцыстычным артыкулам "На путях отступления (под Минском)", прысвечаным барацьбе з польскімі акупантамі на Беларусі і ўпершыню апублікаваным газетай "Звезда", якая выходзіла ў Смаленску, 17 лістапада 1919 года. Апроч драмы, на іншых творах архіўнай папкі не пазначаны аўтар. На карысць таго, што яны таксама належаць пяру Міхася Чарота, ускосна сведчыць іх знаходжанне ў адной архіўнай справе з ягонай падпісанай п'есай, а таксама тое, што ўсе матэрыялы справы надрукаваны на адной машынцы (найбольш верагодна — на "Рэмінгтоне" ці "Ундэрвудзе", якімі ў савецкіх дзяржустановах шырока карысталіся аж да першых пасляваенных гадоў). Дададзім, сам Чарот быў відавочцам падзей, пра якія расказвае артыкул смаленскай "Звезды". Вядома, устанаўленне аўтарства чатырох пералічаных твораў вымагае дэталёвага, паглыбленага аналізу.

Але вернемся да найбольш каштоўнай нашай знаходкі — знакамітай паэтычнай драмы "На Купалле". Варта адразу заўважыць, што ва ўсім тэксце, надрукаваным шрыфтам, крыху драбнейшым за той, які знаходзіцца ва ўжытку зараз, не сустракаеш нічога, што выклікала б думку аб нейкай фальсіфікатарскай падробцы, ці нават нарадзіла б асцярожны недавер да яго. Зрэшты, мяркуйце самі. Амаль на кожнай старонцы твора — праявы неўнармаванасці бела-рускай мовы, вельмі ўласцівыя для пачатку 20-х гадоў. У тэксце мы не знайшлі ніводнага паланізму, але ёсць багата русізмаў, што характэрна для аўтара, які нарадзіўся ў цэнтральнай частцы Беларусі і атрымаў сістэматызаваную рускамоўную адукацыю. Ды і сама папера (так званая папяросная), на якой надрукаваны другі экземпляр твораў, якраз адпавядае часу стварэння драмы. Падкрэслім, што ўвесь тэкст не адрэдагаваны, нават не вычытаны, дзейныя асобы толькі пералічаны ў наступным за тытульным аркушы, звыклае для драматургічных твораў сціслае раскрыццё галоўных рыс персанажаў адсутнічае. Згаданыя акалічнасці (асабліва апошняя) даюць падставы для меркавання: найбольш верагодна, што перад намі — адзін з першапачатковых аўтарскіх варыянтаў драмы. А каб твор стаў, нарэшце, здабыткам беларускай нацыянальнай культуры, знойдзены тэкст неабходна апрацаваць (чым аўтар гэтых радкоў зараз займаецца) і аператыўна апублікаваць. Музыку Тэраўскага да п'есы наўрад ці каму пашанцуе ў хуткім часе знайсці. Але ж сёння ў нас плённа працуе мноства таленавітых кампазітараў, за імі, спадзяёмся, справа не стане. Паэтычная драма Міхася Чарота "На Купалле" абавязкова павінна вярнуцца ў жыццё, заняць годнае месца ў рэпертуары айчынных тэатраў. Яна таго даўно заслугоўвае!

---

з 3-га нумара і да закрыцця (1927—1931): дасылаў у рэдакцыю свае вершы, апавяданні, п'ескі, жарты, малюнкі, вёў перапіску з юнымі чытачамі. Да таго ж у 1927 годзе асобна выйшлі тры яго п'есы: "Цудоўная ноч", "Елка Дзеда Мароза", "Пакой у наймы".

І яшчэ: якраз тут, у высылцы, у 1929 годзе Сяргей Пяюн напісаў сваю знакамітую песню "Зорачкі", якая набыла вялікую папулярнасць у Заходняй Беларусі і якую ўжо пасля вайны Рыгор Шырма апублікаваў як народную песню паланянак, вывезеных фашыстамі ў Германію. Прыгадаю колькі радкоў з гэтай песні:

***Дні прыходзяць, дні адходзяць,***
***дні лятуць,***
***Быццам рэк бурлівых хвалі ўдаль бягуць.***
***Трэці год як на выгнанні ў чужыне***
***Трэба мучыцца душой і сэрцам мне.***

***Навакол нідзе не ўгледзіш родных хат***
***Не працягне рук зычліва родны брат,***
***Не падзеліш нават думак з нікім тут,***
***Не прыгорне ў адзіноцтве родны кут.***

Пазней песня была перакладзена на іншыя мовы (украінскую, польскую, рускую, татарскую, таджыкскую, эсперанта), а мы чулі яе ў выкананні спевака Данчыка. Вось, дарэчы, урывак з ліста бабулі Данчыка да дзеда Данчыка Лявона Луцкевіча ад 19.10.1989 (Нью-Йорк, ЗША): "Ты пытаеш, ці ведаем мы песню "Зорачкі", якую вы прыслалі Данчыку. Дык гэтая песня гучала ўва ўсіх остаўскіх лагерах у Нямеччыне, яе пяялі там усе, а найбольш моладзь, сабраўшыся ў вольны ад працы час. Гэтая песня гучала і ў украінскіх лагерах, перакладзеная паўкраінску, і ўкраінцы спрачаліся, што гэта іхняя песня і беларусы яе прысабечылі. Зразумела, аўтара амаль ніхто не ведаў, ды калі песня стаецца народнай, ідзе ў масы, мала хто ведае, адкуль яна паходзіць.

Памятаю, што з бегам часу дадаваўся чародны год, напрыклад: "6-ты год як на выгнанні ў чужыне...", потым 7-мы год й г.д., і цяпер у Амерыцы, на беларускіх рэсортах, ці то ў Кліўлендскім "Полацку", ці то ў Кэтскільскім "Вэл-Эры", на ўсіх зборках гучаць "Зорачкі" й выклікаюць слёзы ў старэйшага пакалення. Песня гэта гучыць і ў прыватных беларускіх хатах пры сямейных урачыстасцях, яе ведаюць і любяць як беларусы, так і ўкраінцы. Калі б Данчык выступіў на сцэне з ейным выкананнем, яе б падхапіла ўся зала, бо яна сталася народнай эміграцкай і выражае сум людзей па Бацькаўшчыне. Чэсць і слава ейнаму аўтару!"




*Вокладка часопіса, зробленая С. Новікам-Пеюном (1927 г.)*

Назаву яшчэ некалькі песень, напісаных Новікам-Пеюном у розныя часы: "Над Шчарай" ("Слонімскі вальс"), "Прысяга", "Краска шчасця" (вальс), гімн "З крыві беларускай", "Не гудзе зялёная дуброва" (прысвечаная памяці ахвяр лагера смерці Калдычова).

Пасля высылкі малады паэт зноў трапіў пад нагляд паліцыі ў Слонім. Тут Сяргей Новік пасябраваў са старым археолагам Іосіфам Стаброўскім, дапамог яму арганізаваць у горадзе краязнаўчы музей (1939), а ў 1940 годзе стаў дырэктарам гэтага музея, узбагаціў яго каштоўнымі калекцыямі, у час Вялікай Айчыннай вайны змог ўратаваць і захаваць каштоўныя музейныя калекцыі, экспанаты, некалькі тысяч кніг.

Але сапраўдныя блуканні па пакутах былі яшчэ наперадзе, усё толькі пачыналася. 25 лістапада 1943 г. Новік-Пяюн быў арыштаваны Слонімскім СД і прасядзеў у Слонімскай турме да 9 чэрвеня 1944 г., перанёс там сыпны тыф у цяжкай форме. 9 чэрвеня яго адправілі ў лагер смерці Калдычова. Не перадаць таго, што яму давялося тады перажыць.

4 ліпеня 1944 г. Новіка-Пеюна ў ліку іншых пагналі на расстрэл. Выратавацца ўдалося цудам.

Паэт вярнуўся ў разбураны і вызвалены ад фашыстаў Слонім, зноў стаў працаваць у краязнаўчым музеі. Здавалася б, нарэшце скончыліся пакуты і можна свабодна ўздыхнуць. Дык не, 14 снежня 1944 г. зноў па лжывым даносе ён быў арыштаваны ўжо савецкімі карнымі органамі і зняволены ў турму. І тут нараджаліся вершы, і, канечне, зразумелая іх тэматыка:

***Даюць мне скарынку счарсцвелага хлеба***
***І кубак халоднай вады:***
***"Сядзі і маўчы. Агрызацца не трэба.***
***Смерць побач, а ты — малады".***

*("Даюць мне...")*

24 сакавіка 1945 года ваенны трыбунал засудзіў Сяргея Пеюна да 10 гадоў пазбаўлення волі і адправіў на Калыму. Але і там ён пісаў вершы і песні, якія друкаваліся ў якуцкіх рэспубліканскіх выданнях.

У 1958 годзе С.Новік-Пяюн быў рэабілітаваны і змог вярнуцца на Беларусь, якую заўсёды моцна любіў, апяваў і ўслаўляў у сваіх вершах, бо меў цвёрды намер аддаць паэтычнае слова, а, калі трэба, і жыццё "за родны бацькоўскі куток".

***За мураванаю сцяной***
***Халоднай жудаснай вязніцы***
***Край беларускі родны мой***
***Штоночы ў светлых снах***
***мне сніцца.***

***Калі ж апошні прыйдзе час***
***І сэрца біцца перастане,***
***З сабой вазьму ў магілу ўраз***
***Да Беларусі я каханне.***

*("О, Беларусь, мой родны край")*

Ужо жывучы ў Мінску, Сяргей Міхайлавіч арганізаваў у сябе дома патрыятычны клуб для дзяцей. Шмат школьнікаў пабывала ў яго — прыйшоўшы раз, прыходзілі ізноў. Дзецям было цікава з "Маладым Дзядком", яны маглі не толькі пачуць цікавы расповед, верш ці песню, але і паспрабаваць свае сілы ў літаратуры ды мастацтве. Дзіцячыя вершы і малюнкі Сяргей Міхайлавіч старанна, з любоўю захоўваў. Наведваліся і студэнты — у большасці філолагі, завітвалі часам і пісьменнікі дый проста знаёмыя. Новік-Пяюн быў рады ўсім, ён мог бясконца расказваць, успамінаць — было чым падзяліцца...

Каб, перажыўшы столькі, не зламацца і не зняверыцца, трэба быць вельмі моцным чалавекам. Такая магутная воля да жыцця, непахісная вера і любоў да людзей праз цяжкія выпрабаванні, відаць, даецца як вялікі дар, і даецца не кожнаму. І, мусіць, нездарма сярод запісаў паэта ёсць такі: "Злосны лёс пэўна нам пазайздросціць..."

**Наталля ЯКАВЕНКА,**
**навуковы супрацоўнік музея**

## КНІГІ ПАЭТАЎ-КЛІМАЎЦАЎ

У Магілёўскай абласной друкарні ў 1996 годзе ўбачыла свет паўдзесятка кніг вершаў маіх землякоў-клімаўцаў.

Мікола Мінчанка, напрыклад, выдаў зборнікі "Шанц на адкрыццё", "Маладзік над Клімавічамі", "Тайна споведзі".

Першая кніжка "Хараство" выйшла ў Івана Перагуды. Аўтар яе — чалавек сталага веку. Сабраныя пад адной вокладкай вершы раней друкаваліся ў Клімавіцкай раённай газеце, на старонках абласных і рэспубліканскіх перыядычных выданняў. Многія вершы Івана Раманавіча пакладзены на музыку, сталі песнямі, якія выконвае Клімавіцкі народны хор. Паасобныя з іх уключаны ў рэпертуар рэспубліканскага хору і змешчаны ў зборніку "Найбольш папулярныя мелодыі народа Беларусі".

Радасць ад сустрэчы з уласнай першай кніжкай спазнаў і Мікола Малаткоў. За плячыма ў 33-гадовага аўтара — служба ў арміі, вучоба ў тэхнікуме і інстытуце... Ды важней за ўсё, што творца жыве багатым унутраным жыццём. Духоўны свет маладога сучасніка якраз і з'яўляецца скразной тэмай яго вершаў.

Выйшлі зборнікі тыражом па сённяшнім часе немалым — кожны па тысячы асобнікаў. Выдадзены яны на сродкі саміх аўтараў. Праўда, кніга М. Мінчанкі "Маладзік над Клімавічамі" выйшла з дапамогаю птушкафабрыкі "Клімавіцкая", а зборнік М. Малаткова "Маліннік" часткова аплаціў лайонс-клуб г. Клімавічы.

**Уладзімір ДУКТАЎ,**
сакратар Магілёўскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў

## СВОЙ ЧАЛАВЕК НА БЕЛАРУСІ

У выдавецтве "Юнацтва" пабачыла свет цудоўна аформленая і паліграфічна выкананая кніга Міколы Гайдука "Белавежскія быліцы і небыліцы", змест якой склалі сабраныя і запісаныя ім легенды і паданні, што з пакалення ў пакаленне перадаюцца сярод тых, хто жыве ля Белавежскай пушчы, на берагах Дняпра, Віслы, Нёмана. А мастак Генадзь Сянькоўскі пастараўся данесці да юных чытачоў як вабнасць тамашняй прыроды, так і непаўторнасць гісторый, якія прывабілі ў свой час М. Гайдука, а цяпер, не застаецца сумнення, спадабаюцца тым, хто возьме кнігу ў рукі.

Дарэчы, з гэтымі "быліцамі і небыліцамі" добра знаёмыя чытачы на роднай М. Гайдуку Беласточчыне (нарадзіўся будучы пісьменнік 29 мая 1933 года ў вёсцы Кабылянка Беластоцкага павета). Кніжка М. Гайдука, якая выйшла яшчэ ў 1982 годзе, называлася "Аб чым шуміць Белавежская пушча" з падзагалоўкам: "Казкі і легенды сабраў і апрацаваў Мікалай Гайдук".

І ўвогуле, М. Гайдук — прыхільнік гістарычнай тэматыкі. Гэта засведчылі і яго невялікія аповесці, апавяданні, што склалі зборнік "Трызна", выпушчаны ў 1991 годзе выдавецтвам "Мастацкая літаратура". Ды і "Юнацтва" не ўпершыню гасцінна расчыняе свае дзверы перад беластоцкім літаратарам: у 1993 годзе была выдадзена яго кніга "Паратунак" — "займальнае падарожжа ў гістарычную даўніну заходніх тэрыторый беларускіх зямель".

## ПРАЦЯГ ПУБЛІКАЦЫІ

вершаў В. Ластоўскага ў шостым нумары часопіса "Спадчына" за мінулы год. Можна пазнаёміцца таксама з рэфератам Л. Акіншэвіча "Крывіцкае казацтва ў XVII ст". Пасляслоўе "Леў Акіншэвіч пра гісторыю Беларусі" напісала В. Лебедзева.

У нумары — працяг "Нарысаў з беларускай гісторыі" В. Ластоўскага (публікацыя А. Каўкі), даследаванне В. Тумаша "Скарына ў Падуі", "Успаміны з жыцця пад савецкай уладай і з пабудовы Беламорскага каналу" П. Палягошкі, рэцэнзія У. Сакалоўскага "Гісторыя Беларусі: погляд з Нямеччыны" на кнігу навукоўца Дортмундскага універсітэта Д. Хольтбруге "Беларусь" у серыі "Краіны", што выпускаецца выдавецтвам О. Бэка ў Мюнхене, артыкулы В. Астрогі "Шпіёнскае гняздо" ("Стварэнне і дзейнасць Камісіі па вывучэнні Заходняй Беларусі", 1927—1937 гг."), А. Грыцкевіча "Пасляслоўе да палемікі наконт старадаўняга герба Слуцка"...

Матэрыялы "Апісванне крыжа, прынесенага прападобнаю Эўфрасінняй у дарунак Полацкаму манастыру" (пераклад і пасляслоўе Г. Запартыкі), артыкул С. Марозавай "Лёс культурнай спадчыны уніяцкай царквы ў Беларусі", праца а. Г. Якуніна "Праўдзівае аблічча Маскоўскай патрыярхіі" аб'яднаны ў раздзеле "Рэлігійная гісторыя".

---

### Яўген КАРШУКОЎ



## "ЗАСТАЛОСЯ МІНУЛАЕ З НАМІ..."

●

*Так здарылася: збегліся сцежкі,*
*Аб'яднала адно пачуццё,*
*І шчаслівыя нашы усмешкі*
*Абвясцілі — наперад, жыццё!*

*І пабеглі гады за гадамі,*
*Не спыніць, не вярнуць іх назад.*
*Засталося мінулае з намі,*
*Як вясновы квітнеючы сад.*

*І ні старасць, ні горкія кпіны*
*Не азмрочаць блакітнай вясны.*
*Успаміны... Жывуць успаміны...*
*Ціха просяцца ў сэрца яны.*

### Не тыя Сожа берагі

*Маім землякам-веткаўчанам, якія мусілі пакінуць забруджаны радыяцыяй свой горад.*

*Зямляк, сказаць і мне дазволь...*
*Нашу ў сваім я сэрцы скруху:*
*Я перажыў страшэнны боль —*
*Чарнобыльскую завіруху.*

*Не я, сам Бог асудзіць тых,*
*Чыя віна — выгнанне з дому...*
*Вар'яцкі век для маладых*
*Прынёс няшчасце і старому.*

*Не тыя Сожа берагі,*
*Не той мой горад сёння — Ветка...*
*Я моўчкі плачу ад тугі,*
*Людскога гора вечны сведка.*

### Споведзь

*Не быў аматарам бальніц*
*І не любіў бальнічных лёжак,*
*Ды ўспамінаю да драбніц*
*Палату матчыну і ложак.*

*Дзён горшых я не назаву:*
*Казала маці мне аб смерці.*
*Яна прасілася ў царкву,*
*Яна збіралася памерці.*

*Я ледзь не плакаў, а яна...*
*Спакойна гэтак, без трывогі:*
*— Памру, сынок... Даўно адна...*
*Даўно не носяць ужо ногі.*

*Ты не смуткуй... А грошы ёсць,*
*Каб быў туды мой шлях пачэсны.*

---

### Усевалад ГАРАЧКА



## "СВЕЧАК ЖЫВЫЯ АГНІ"

●

*М. Ц. П.*

*— Гэты вечар: спелыя аблокі. —*
*Цягнешся танюткаю рукой.*
*Падае з пляча падвіты локан.*
*Не прайшла эпоха рококо.*

*Фінціфлюшкі, жэсты-кампліменты.*
*Свежы вецер лашчыць завіткі.*
*Бачу, як усмешка ледзь прыкметна*
*Прыўзнімае губ тваіх куткі,*

*Разбурае строгае барока*
*Тоненькай ускінутай рукі.*
*Гэты вечар. Спелыя аблокі.*
*Неба паміж пальцаў трапяткіх.*

●

*Дзве ў полі дарогі:*
*Адна ля адной ляжаць.*
*А недзе*
*Ля гарызонту*
*Сыходзяцца.*

*З тых дарог па кожнай*
*Кудысьці людзі бягуць:*
*Знікаюць*
*На гарызонце*
*Здрабнелыя.*

*Клічуць мяне з правай:*
*— Спяшайся Руховым стаць,*
*Бо хутка*
*На гарызонце*
*Сустрэнемся.*

*Іншы бок сцвярджае:*
*— Найлепей — Зялёным быць.*
*Калісьці*
*Ад гарызонту*
*Йшлі роўнымі.*

*Дзве ў полі дарогі:*
*Адна ля адной ляжаць.*
*І толькі*
*З-пад гарызонту*
*Ні голасу.*

●

*...Раптам прачнуся — снег за акном:*
*Неба бялее... Цёплы мой дом.*
*Снежная замець, вецер у сне. —*
*Сны пра завеі бачыць не мне.*
*Заўтра прачнуся — слота ці золь.*
*Посная ежа. Дзе мая соль?*

*... Доўга чакаю. — Снег за акном.*
*Выбегу з дому — вокан святло.*
*... Холадна стане... Нехта ў акне.*
*Снежная замець сніцца не мне.*
*Ранкам прачнуся*
*(слота ці золь),*
*Вочы адкрыю — белая столь.*

●

*А над полем, над полем вецер,*
*Чайкі крык.*
*А над захадам — сонца свеціць.*
*Маладзік.*

*Калі чайцы я ў вока мецію,*
*Край крыла*
*Так апошнім промнем адсвечваў,*
*Так палаў.*

*А над полем — над полем вецер,*
*Чайкі крык.*
*А над захадам сонца свеціць.*
*Маладзік.*

*Мёртвай чайцы прыўздыме вецер*
*Край крыла:*
*— Я жыла ў паднябёсным свеце...*
*Я жыла!*

●

*А свечак агні —*
*Гэта кволыя шчасця расткі.*
*Зялёнае поле,*
*І полем ісці напрасткі.*

*А свечак агні —*
*Гэта вецер і цені, і жах.*

---

### Ігар ПРАКАПОВІЧ



## "ДУША НІКОМУ НЕПАТРЭБНА"

●

*Ніхто не кліча ў Шамбалу мяне.*
*Відаць, душа нікому непатрэбна.*
*Малым каменьчыкам ляжыць*
*яна на дне*
*Той рэчкі, што ляціць*
*з вяршыні срэбнай.*
*З вяршыні той, дзе ззянне да нябёс,*
*Дзе вышыня глыбей, чым нашы моры.*
*Там НЕХТА*
*ўжо раскручвае мой лёс,*
*Там НЕХТА для душы*
*запаліць зоры...*

### Над сумётамі

*Над сумётамі вечнай Прасторы*
*зіхацяцца крыніцы світання,*
*незабруджаным позіркам зоры*
*клічуць рэхам душу да яднання,*
*да адзінства*
*з агнём незгасальным*
*на мяжы небыцця і бяссмерця,*
*да спляцення ў віхоры сакральным,*
*дзе гучыць незвычайная Песня.*
*Галасы беласнежных Анёлаў*
*дзіўным хорам плывуць*
*у паветры,*
*і ружовымі фарбамі золак*
*Лье на ранак бальзамам санеты.*
*Мне спагадлівы чуецца голас,*
*зразумелымі робяцца гукі.*
*Да душы адзінокай і голай*
*Бог працягвае цёплыя рукі...*

●

*У вячэрнім тумане*
*не бачна ні зоркі, ні знічкі, —*
*Усё лягло спачываць,*
*каб пачаць наступнаму дню,*
*Ды не спяць светлячкі,*
*каля ціхай халоднай крынічкі.*
*Пэўна, лёс іх такі —*
*быць у цемры заменай агню.*

*Мо і наш такі лёс —*
*ліць святло у часіну змяркання*
*І нячутным цяплом*
*сэрцы хворых людзей саграваць.*
*А калі на зямлю нашу*
*прыйдзе нарэшце світанне,*
*Людзі зноў ажывуць,*
*ну а мы*
*пойдзем ціхенька спаць...*

### Вясковае гульбішча

*Краіна гуркоў ды бананаў,*
*І спелых слівовых насоў,*
*На пыльных тваіх аўтабанах*
*Калёсы мінулых часоў.*

*На возе рыпучым няўмела*
*Ліхачыць вясковы яздок,*

*На свеце гэтым кожны госць...*
*Паставіш крыж, мо і жалезны...*

*— Матуля родная, змані! —*
*Так ціха не шаптаў ніколі.*
*— Знікаюць нашы карані,*
*І я адзін, як дрэва ў полі.*

*Мне шмат хацелася сказаць,*
*Ды матчын твар бялеў, як з мела,*
*І стыла горкая сляза:*
*Маніць старая не умела.*

*І разанула сэрца мне,*
*І грудзі сціснула ад болю.*
*Я зразумеў — смерць не міне,*
*І страты горш не будзе болей.*

●

*Сам заўважаю за сабой:*
*Я перад злом — безабаронны.*
*Мне б весці з ім рашучы бой,*
*А я... накшталт беднай вароны.*

*Пакрыўджаны, праз нейкі дзень*
*Забыць імкнуся пра пакуты.*
*Ды зло за мной, як цень, ідзе,*
*І я жыву, злом гэтым скуты.*

---

*Здранцвелыя ногі.*
*Хістаецца ценю мяжа.*

*А свечак агні —*
*Гэта... свечак жывыя агні.*
*Як вочы у вочы —*
*Глядзі на агонь. Не міргні.*

●

*Не спяшаецца сонца*
*за ўзгорак схавацца,*
*а ўслед яму вецер*
*пыл полем гоніць.*

●

*Жанчына з выпетранымі валасамі,*
*сядзем з табой*
*ускрай дарогі,*
*памаўчым...*
*Пахне*
*леташняя трава.*

●

*Тыя*
*хто так чакаў дапамогі...*
*Рэха вашых галасоў*
*стала цёплым ветрам,*
*што авявае*
*маё цела.*

●

*Не стань для мяне*
*мінулай вясны*
*сувенірам.*

●

*Я зразумеў, што, нават, прыгажосць*
*Аплачваецца роўнаю цаной,*
*Што курчыліся яблыняў ствалы*
*Ў палоне белай квецені вясной.*

---

*І робіцца нейкае "дзела"*
*Ў кустах, дзе курыцца дымок.*

*Гарачага хочацца зелля...*
*Гуляй і забудзься, душа!*
*Дарэмна заве на пахмелле*
*Ў вячэрнім касцёле імша.*

*Завалімся ў возе снапамі,*
*Давай жа, вясковы яздок,*
*Сцябай ланцугамі-цапамі*
*Каня, пакуль, бедны, не здох.*

*Расцягнем гармонік і песні*
*Усе хто сабе заравём —*
*Хай чуюць у горадзе дзесьці,*
*Што мы яшчэ, гады, жывём.*

*І гэдак у чадзе напойным*
*Ляцець і ляцець напраскі.*
*О, толькі б*
*не думаць спакойна*
*І не глядзець з-пад рукі.*

*Давай жа, яздун, ланцугамі*
*Смалі да крывянкі каня,*
*Няхай пад яго капытамі*
*Растопчацца нашае "я"!*





Алесь ЖУК

# БЛАКАДА



*У першым нумары часопіса "Полымя" будзе надрукавана мая новая аповесць "Сны пра маму", у якой я вяртаюся да тэмы нялёгкага і нялітасцівага лёсу беларускай жанчыны-маці. Прапаную ўвазе чытачоў урывак з аповесці.*

**Аўтар**

ПАЧЫНАЛА раскашаваць лета, прыродзе не было ніякае справы да таго, што ў людзей вайна. Прырода занадта вялікая для таго, каб звяртаць увагу на такія дробязі, як чалавечае жыццё, нават жыцці, якія тысячамі канчаліся ў адзін дзень. Колькі войнаў, вялікіх і малых, адгрымела, адпалала пад вечным Сонцам і вечным Месяцам на вечнай Зямлі! Яны палічаны. Але роўна ў сваю пару дзень змяняўся ноччу і пасля ночы наступаў дзень, мяняліся поры года, зацвіталі, цвілі і адцвіталі кветкі, кволымі парасткамі прабіваліся на белы свет будучыя дрэвы і самі па сабе ў лясным гушчары падалі тыя, што аджылі, адстаялі свой век.

Партызаны чакалі свята, чакалі вызвалення, і нават камандзіры, якія штодня атрымоўвалі звесткі пра імклівае набліжэнне фронту падабрэлі, закрывалі вочы, калі бачылі хлопцаў пад відочнаю мухаю. Потым на гэты святочны настрой быццам набегла хмурынка: пасуровелі і сталі зноў строгімі камандзіры, і самі хлопцы пацішэлі ў сваёй бесшабашнай весялосці. Амаль не стыкалася ў атрадзе, не злазіла з коней партызанская разведка. І ўжо не толькі сярод партызан, але і сярод цывільных страшным ценем слізганула страшнае слова — блакада.

Абрынулася яна раніцай дзікім завываннем пікіруючых нямецкіх самалётаў і выбухамі. Немцы бамбілі вёскі. Нізка, пакаршуковаму драпежна, самалёты праносіліся над самымі стрэхамі, паліваючы з кулямётаў людзей, якія мітусіліся і не ведалі, куды дзецца, што найперш хапаць з сабою. З наступнага заходу самалёты кідалі бомбы, і яны пранізліва свісталі. У канцы гэтага свісту цяжка гухкаў выбух, ад якога скаланалася зямля. Ужо гарэла некалькі хат, пацягнула трывожным пахам пажару, які ніхто не тушыў, і пажар пачаў перакідвацца з аднае саламянае страхі на другую. Закруціліся, загулялі вогненныя віхры, яны падымалі ў паветра клубкі вогненнае саломы і перакідвалі іх на суседнія хаты. Крычалі людзі, трывожна і спалохана брахалі сабакі, рыкалі каровы, але ўсё гэта перамагаў страшны гул самалётаў, свіст бомб, грукат кулямётных чэргаў. У гэтым пекле аднекуль з'явілася і пералятала ад чалавека да чалавека адно выратавальнае слова: "пераправа". Чалавечая плынь вырывалася з вогненнае вёскі на аселіцу, куп'істую і балоцістую бліжэй да рэчкі. Людзі разумелі, што выратаванне там, за рэчкаю, у зарэчных балотах.

Бабуля першая выскачыла з хаты на двор. І ў гэты ж час проста па ёй шарахнуўся цень ад самалёта, аглушыла яго дзікім выццём. Ад перапуду яна кінулася назад у хату, закрычала:

— Уцякайма, Жэня! Хапай клункі і ўцякайма.

Невядома было толькі, якія клункі хапаць, колькі іх хапаць, і таму бабуля схапіла самае першае, што трапілася пад руку — мяшок з сухарамі, завязаны калошай. Мама схапіла клуначак з адзеннем.

Яны ўжо выбеглі за пляцы, туды, куды з усяе вёскі імкнуліся людзі. Палаючая вёска заставалася ззаду. Над ёй яшчэ кружыліся, заходзілі самалёты.

— Мама, карова!

— Якая карова?

— Карова ў хляве асталася, забыліся выпусціць! Карова згарыць!

Мама ўжо бегла назад, да вёскі.

— Жэня, куды ты, дурніца! Уцякайма!

— Бяжэце, я даганю вас! Даганю.

І бабуля пабегла, трымаючы на плячы мяшок з сухарамі. Ёй не перашкаджалі купіны. Яна быццам пералятала цераз іх. І здзівілася, што іх партызанскі бацюшка з матушкаю ў брычцы адсталі ад яе. Чаму бацюшка быў на брычцы, ёй не думалася, у галаве толькі цюкнула, прамільгнула: брыдка абганяць бацюшку, але не спынілася, нават прыбавіла ходу туды, дзе ўжо пачыналі тоўпіцца людзі. І толькі калі дабегла да пераправы, успомніла пра дачку, азірнулася: ёй здалося, што на пагорку махае белаю касынкаю, гоніць іхнюю пярэстую карову дачка.

— Куды ты яе гоніш! Уцякай, дурніца! — толькі адно, што і магла яна крыкнуць, быццам яе маглі пачуць.

Пераправа ўяўляла сабой даволі вузкі дашчаты масток, за ноч перакінуты партызанамі на другі бераг рэчкі. Ля яе дзяжурылі конныя партызаны. Яны стрымлівалі, выроўнівалі людскую плынь у роўны ручаёк, які цёк па пераправе на другі бераг, дзе было выратаванне.

Збоч назіраў за пераправай камбрыг. Невысокага росту, у папасе, у штанах з чырвонымі лампасамі, у фуражцы, маўклівы, ён быў падобны на ўладыку, якому падпарадкавана сёння чорнае пекла з чорнымі анёламі, якія каршунамі даклёўвалі палаючыя вёскі. Збоч яго тоўпіўся конны ўзвод аховы. Бабуля бачыла, як падляцелі да камбрыга аднекуль адтуль, з-за палаючых вёсак тры конныя разведчыкі, нешта далажылі яму і ён толькі махнуў рукою, і разведчыкі панесліся зноў назад, туды да палаючых вёсак, дзе нешта дзеелася, вядомае толькі ім і камбрыгу. Ён нешта сказаў аднаму са сваіх ардынарцаў. І той пад'ехаў да партызан, якія кіравалі пераправай. Другі ардынарац падвёў да камбрыга каня, і камбрыг нечакана лёгка, пакашэчаму, адным махам апынуўся ў сядле.

Самалёты тым часам скончылі сваю работу, пераможна пагойдваючы драпежнымі крылламі яны зрабілі круг над зруйнаванымі вёскамі і толькі цяпер заўважылі сваіх ахвяр, якіх перад пераправай застаўся маленькі натоўп — астатнія былі на тым беразе, у выратавальных балотах. Пагрозліва развярнуўшыся, са страшным ровам самалёты пайшлі на пераправу, абодва, як звязаныя нябачным шнурком, яны заходзілі на пераправу, адзін крыху наперадзе, другі збоч, быццам назіркам. Трывожна зашапталася ахова камбрыга. Бабуля бачыла, як камбрыг нахіліўся да другога свайго камандзіра, які быў у цывільным, у кубанцы з чырвонаю стужкаю наўскасяк, нешта сказаў яму і ўсміхнуўся.

Ад нізкіх у лёце самалётаў аж ветрам махнулася па твары, але з іх не пачулася ніводнага стрэлу. Быццам пакрыўджаныя ад свайго бяссілля самалёты пайшлі далей над рэчкаю і зніклі ўдалечыні. І было невядома, вернуцца яны сюды, абнавіўшы боекамплект ці не. Камбрыг махнуў рукой, быццам сказаў "пара", і рэгуліроўшчыкі прыпынілі рух уцекачоў на пераправе. Камбрыг у суправаджэнні аховы лёгкаю рыссю праехаў на той бераг.

Бабуля глядзеля на ўсё гэта, нібы яно снілася ёй. Яна дасюль ні разу не бачыла камбрыга ў генеральскай форме і цяпер падумала, што вайна і сапраўды скончылася, калі і партызанамі камандуе генерал.

А дачкі не было. І цяпер думалася, навошта яна ўцякала, навошта бегла да гэтае пераправы, нашто пакінула яе, пусціла выганяць тую карову. Краем вуха чула, што ў натоўпе ўжо шумела другое слова, якое прывезлі разведчыкі: "танкі". Партызаны прыспешвалі людзей на пераправе.

— Праходзьце, цётка. Пераправа канчаецца, — гукнуў ёй адзін з партызан.

Яна кіўнула галавой, але працягвала стаяць пры сваім мяшку з сухарамі і, як зачараваная, глядзела туды, дзе гуляла полымя, кружыліся вогненныя віхры, высока ў паветра падкідаючы вогненныя клубкі саломы. Ад палаючых вёсак стаяў нейкі глухі вогненны гул і трэск гаручага дрэва.

Бабуля не заўважыла, як зноў конна праляцела па мастку разведка, і ачнулася толькі ад грукату капытоў па дошках, калі разведчыкі імчалі назад. Гэты грукат быццам абудзіў яе, вывеў са здранцвення і яна кінулася да пярэдняга, да Ваські-масквіча, які кружыў каля іхняе хаты, якому падабалася ейная Жэня. Яго бабуля абмывала і абшывала, такога маладзенькага і адчайнага, і шкадавала, як і сваю Жэню.

Цяпер яна кінулася наперарэз Васькаваму каню, ухапілася за стрэмя.

— А Васечка, а сынок, ратуй! Жэня там асталася, карову з хлява выганяла, і няма! Пашукай яе, Васечка!

— Когда осталась?

— Калі самалёты бамбілі!

Чарнявы, смуглы з твару Васька быццам пабялеў.

— Хорошо, мамаша. Я найду. А вы уходите, уходите на тот берег. Скоро бой будет. Танки идут.

Падпарадкуючыся яго словам, бабуля быццам у сне пайшла на пераправу, на другі бераг, дзе было жыццё і дзе не было яе дачкі. На тым беразе за купкаю кустоў пры сваёй ахове чакаў бою камбрыг, пра нешта зрэдку перакідваючыся словамі з камісарам. Уздоўж берага ў акопчыках, выкапаных наспех, чакалі бою партызаны. Зводдаль на пагорачках яна заўважыла дзве партызанскія гарматкі, прыкрытыя ссечанымі лазовымі кусцікамі.

Усё гарэлі, гарэлі вёскі, а на тым беразе было бязлюдна, дзяжурылі пры пераправе партызаны-рэгуліроўшчыкі. Пераправа яшчэ некага чакала. Чакала і яна на гэтым беразе.

— Вы, цётка, туды, далей, у балота ідзіце. Бой тут хутка будзе, — пакратаў яе за плячо незнаёмы пажылы партызан. — Тут вам няма чаго стаяць.

— Дачку чакаю.

— Якую дачку? Адкуль?

— З таго берага, — адказала яна і кіўнула на вогненныя вёскі.

Дзядзька дзіўна паглядзеў на яе, кашлянуў і адступіўся.

Спачатку здалося — мроіцца, што да пераправы ляцяць разведчыкі. Ужо калі яны ўзляцелі на пераправу, пазнала, што наперадзе Васька-масквіч і што папярок сядла ён вязе яе. Не пазнала, а душой пачула. І ногі быццам прыраслі да зямлі, заняло мову.

Разведчыкі са сваёй паклажай пад'ехалі да камбрыга, далажылі яму, а яна не магла скрануцца з месца, каб рушыць да іх, закрычаць, загаласіць. І толькі калі заўважыла, што Васька азіраецца навокал, мабыць, шукае яе, падняла сваю ацяжэлую руку, слаба махнула ёю.

Яшчэ не даязджаючы, Васька крыкнуў:

— Жива, тетка, ваша Женя. Контузило ее. Корову на части разнесло взрывом, а ее контузило.

Яна слухала, чула і не чула, бо пачынала звінець у вушах: тое, што было яе дачкой, безжыццёва ляжала ўпоперак сядла з чорным, як галавешка, тварам, калена было перавязана набрынялай ад крыві белаю анучкаю.

— Пойдем к санитарам, пускай перевяжут ее. И уходите в болото, ее уносите. Здесь оставаться нельзя. Бой будет. Немцы с танками идут.

Яна моўчкі пайшла побач з канём, баючыся дакрануцца рукой да дачыннай, бо здавалася, што яе абманваюць і рука будзе халоднай. У другой руцэ несла свой мяшок з сухарамі.

Як скрозь сон яна бачыла, як санітары знімалі з сядла дачку, перабінтоўвалі ёй нагу, суцяшалі маці, што ранка ў калена асколкам невялікая, асколак прайшоў наскрозь, кульгаць не будзе. Потым яна схадзіла ў балота, папрасіла людзей, каб перанеслі дачку туды, дзе ўсе хаваліся, бо пачынаўся бой. Раўлі маторамі нямецкія танкі, адсюль з берага білі па іх партызанскія гарматкі, і ў адказ ім глуха бумкалі танкавыя гарматы і стракаталі кулямёты.

Бабулі параілі, што кантузію, як удар маланкі, можа адцягнуць толькі зямля. І яна абгарнула дачку вільготным балотным торфам. Калі загортвала, калі ляжала побач з дачкой, чула, як цяжка дыхае і скаланаецца зямля, — гэта не ад бліжняга партызанскага бою, гэта на падыходзе быў фронт, і яго цяжкае дыханне перадавалася зямлёю. І мяшок з сухарамі ляжаў поруч.

Яна не памятае, колькі прайшло часу, ачнулася ад даччынога крыку:

— Мама, мамачка! Закрый мяне! Ён глядзіць на мяне, ён глядзіць на мяне!

— А дочачка мая, а хто глядзіць на цябе?

— Лётчык! Нямецкі лётчык у ачках!

— Закрыю, дочачка, закрыю. А ты крычы!

Маці сядзела побач з закапанай у торф дачкою і плакала, бо разумела, што дачка ажыла і будзе жыць. Зусім побач ішоў бой. Пад імі абедзвюма цяжка дыхала, быццам стагнала зямля, прымаючы на сябе цяжкія артпадрыхтоўкі наступаючага фронту.

Але маці была спакойная, бо ведала, што вайна ўжо скончылася для яе самое і для яе дачкі, для ўсіх гэтых людзей, якія зараз ляжалі пад чэзлымі балотнымі кусцікамі і слухалі водгулле далёкага і блізкага бою. Лёгкі летні ветрык развейваў па наваколлі цяжкі, горкі пах пажарышча.

сучасныя аўтары. Цікавасць да Шэкспіра пастаянная. Іншыя аўтары, якія найбольш часта ставяцца ў тэатрах, што субсідзіруюцца, — Чэхаў, Стрындберг, Ібсен. Нядаўна вярнуўся ў афішу Нацыянальнага тэатра Брэхт. У Амерыцы і асабліва ў Нью-Йорку справы інакшыя. Адзін англійскі драматург нядаўна скардзіўся на сам характар нью-йоркскага тэатра. Праблема ў тым, што там аўдыторыя, так бы мовіць, недастаткова падрыхтаваная, "недарэпецыраваная", г.зн. у яе няма магчымасці глядзець класічныя п'есы, а таму і здольнасць адрозніць адно ад другога "змазана", бо ў іх няма традыцыі наведвання тэатра для таго, каб убачыць на сцэне творы асноўных драматургаў свету, няма гісторыі. Праўда, час ад часу гэтыя творы ставяцца ў мясцовых тэатрах Амерыкі, таму нельга сказаць, што ўбачыць іх у Амерыцы немагчыма, але Лондан мае на ўвазе, што класіка, у тым ліку і сучасная, — неабходная частка тэатральнага рэпертуару.

**— А што сёння ўяўляе сабой авангард?**

— Складанае пытанне. Англічане ніколі не былі па-сапраўднаму "авангардам". Гэтае паняцце звычайна звязана з іншымі краінамі: Францыяй, Амерыкай на пэўных этапах... Я думаю, што наша сіла заключаецца ў іншым. Нашых акцёраў у значнай ступені вучаць карыстацца голасам. Гэта не навучанне метаду, і таму нашы акцёры адчуваюць сябе не ў сваёй талерцы ў кантэксце радыкальнага авангарда. Затое яны ідуць ад мовы, і таму ў іх так добра атрымліваецца Бекет або Пінтэр. Брытанскі тэатр заўсёды грунтуецца на тэксце і не прайшоў праз тую фазу, якая вызначыла пошукі амерыканскага тэатра ў 1960-я гады і выявілася ў бунце супраць тэксту і зменнай функцыі акцёра як цэнтра, на якім засяроджана ўся ўвага, і ён даследаваў магчымасці свайго цела, руху, мімікі, вонкавай выразнасці і г.д. Безумоўна, авангард неяк паўплываў на англійскі тэатр, выяўляючы ў творчасці асобных рэжысёраў, але працаваць у гэтым напрамку ў Англіі цяжка. Напрыклад, Пітэр Брук, які займаецца тэатральным эксперыментам, пераехаў у Парыж і працуе пад Парыжам з інтэрнацыянальнай трупай, дзе ёсць некалькі брытанскіх акцёраў, але чыё развіццё звязана з яе інтэрнацыянальным складам, і мне здаецца, што яму будзе не вельмі ўтульна ў англійскім тэатры.

**— Дарэчы, англійская акцёрская школа слушна лічыцца адной з лепшых у свеце. І ў той самы час за межамі Вялікабрытаніі англійскіх акцёраў не ведаюць так добра, як акцёраў Галівуда. Чым гэта тлумачыцца? Праўда, ёсць Х'ю Грант, Эма Томпсан, была непараўнаная Віў'ен Лі, але яны, хутчэй, шчаслівыя выключэнні...**

— Так. І прычына, па якой яны выключэнні, — гэта тое, што яны зарабляюць мільёны. Я згодны, што англійскія акцёры — сярод лепшых у свеце. У іх няма тых прэтэнзій, якія ёсць у акцёраў, што займаюцца паводле пэўнай методыкі, якім патрэбна моцная матывацыя, перш чым яны што-небудзь зробяць. Яны вельмі гнуткія, і ў іх ёсць невычэрпная адданасць тэатру. Амерыканскія ж акцёры ў асноўным жадаюць трапіць на заходняе ўзбярэжжа (таму што там тэле- і кінакампаніі) і іх навучанне скіравана на гэтую мэту. Менавіта таму яны такія харошыя ў кіно. Брытанскія акцёры набываюць вядомасць, здымаючыся ў амерыканскіх карцінах (часам і ў англійскіх, але ў Вялікабрытаніі цяпер здымаецца мала фільмаў, а кінаіндустрыя досыць нязначная: на гэта няма грошай). Вось чаму вы бачыце іх у галівудскіх карцінах, але ў выніку ў іх адразу з'яўляецца магчымасць набыць сусветную вядомасць. У нас вялікая колькасць першакласных акцёраў!

У Амерыцы па кантракце акцёры пачынаюць у тэатры, які яны разглядаюць як свайго роду вітрыну, спадзеючыся, што іх заўважаць людзі з агенцтваў, якія займаюцца падборам акцёраў для фільмаў. Яны з задавальненнем кідаюць тэатр і пераязджаюць на заходняе ўзбярэжжа, дзе могуць рабіць вялікія грошы. Знакаміты акцёр сёння можа зарабіць на адным фільме 10—11 мільёнаў долараў! А ў тэатры зарабляюць зусім невялікія грошы. Вялікія тэатральныя акцёры ў Лондане зарабляюць некалькі тысяч фунтаў у тыдзень, і гэта цудоўны заробак, але гэта зоркі! А восемдзесят працэнтаў акцёраў наогул не маюць працы.

**— Калі параўнаць тэатральнае жыццё Лондана і Нью-Йорка, у чым падабенства?**

— Ну, ёсць пэўныя паралелі паміж Брадвеем і Уэст Эндам — за выключэннем таго, што ва Уэст Эндзе ідуць сур'ёзныя п'есы і там час ад часу аплачваюць пастаноўку сур'ёзных п'ес, а на Брадвеі стараюцца гэтага не рабіць. Побач з Брадвеем ёсць яшчэ офф-Брадвей і офф-офф-Брадвей (тэатры па-на і па-за — па-за Брадвея. — **Ю.С.**), і ва Уэст Эндзе ёсць нешта падобнае пад назвай "The French", што ўключае ў сябе тэатр "Янк Вік" (у процівагу знакамітаму тэатру "Олд Вік". — **Ю.С.**), а таксама такія тэатры, як "Хэптстэд", "Буш", якія размяшчаюцца ў "пабах" (англійскіх піўных барах. — **Ю.С.**). У Нью-Йорку офф-Брадвей — гэта тэатры ў кавярні і барах, а ў Лондане — вось такія тэатры. Гэта значыць, паралелі праглядаюцца.

А розніца вызначаецца яшчэ і памерам нашых краін. У Лондане знаходзіцца Нацыянальны тэатр, і гэта азначае, што любы чалавек у Вялікабрытаніі можа туды трапіць: усяго 400—500 міль з аднаго канца краіны да другога. А ў адным толькі Тэхасе гэта не пакрые і палову адлегласці штата! Адлегласць паміж узбярэжжамі ў Амерыцы складае 3000 міль. У выніку ў Амерыцы няма тэатральных устаноў такога тыпу, як у Вялікабрытаніі: Нацыянальнага тэатра, Каралеўскага шэкспіраўскага тэатра і г.д.

**— А хто самыя папулярныя амерыканскія драматургі ў Амерыцы і Вялікабрытаніі? Гэты спіс адрозніваецца ў дзвюх краінах?**

— Магчыма, але ў самым агульным сэнсе. Папулярныя амерыканскія драматургі ў Вялікабрытаніі — вядомыя імёны: Артур Мілер, Тэнесі Уільямс і з нядаўняга часу — пасля прэм'еры "Трох высокіх жанчын" — зноў Эдвард Олбі, які прабыў "за даляглядам" цэлых дваццаць пяць гадоў, а таксама Л.Уілсан, які быў вельмі папулярны некалькі гадоў назад. Часам ставяцца амерыканскія "блакітныя" п"есы, якія маюць добры прыём, дзякуючы таму, што ў іх ёсць энергія і адкрытая сексуальнасць, што для англічан нязвыкла. З англійскіх аўтараў я назваў бы Дэвіда Хэйра, Кэрала Чэрчыля; у некаторых еўрапейскіх краінах папулярны Э.Бонд, але ў Англіі ён не карыстаецца вялікім поспехам з-за яго палітычных поглядаў і з-за цяжкага характару, які праяўляецца, калі ставяцца яго п'есы і ён вымушаны працаваць з трупай. Потым Арнольд Уэскер. Нядаўна адбылася прэм'ера яго новай п'есы, якая расказвае аб выгнанні яўрэяў з Англіі ў 12-м стагоддзі. Але і ён уяўляе сабой асаблівы выпадак. У яго свая пастаянная аўдыторыя ў іншых краінах, напрыклад, у Скандынавіі, але не ў Англіі.

**— Вось яшчэ такая думка: Амерыка стварыла штосьці, што неяк не давалася Еўропе, — жанр мюзікла. Гэтыя амерыканскія мюзіклы сталі вельмі папулярным "прадуктам спажывання": "Кабарэ", "Вестсайдская гісторыя", іншыя пастаноўкі, якія падарожнічаюць па ўсім свеце. Як бы вы растлумачылі незвычайную папулярнасць гэтага жанру? Гэта што — асаблівасць амерыканскага менталітэту?**

— Цікавая асаблівасць у тым, што мы па звычцы думаем, што гэта, маўляў, амерыканскі прадукт і што англічане ледзь не генетычна няздольны напісаць мюзікл. Вядома, роквіт амерыканскага мюзікла прыпаў на 1920—60-я гады, але потым пачалося заглуханне. Сам жанр не памёр, не, час ад часу нешта з'яўлялася, але нічога прыкметнага. Затое раптоўна з'явіліся англійскія мюзіклы: "Ісус Хрыстос Суперзорка", "Коткі" і ўсе мюзіклы Эндру Лойда Вебера, і яны сталі прызнанымі міжнароднымі фаварытамі. "Адрынутыя" і "Міс Сайгон" створаны французамі, але іх паспяхова запусцілі на міжнародную арбіту ў Лондане, а ўжо з Лондана яны трапілі ва ўсе буйнейшыя сусветныя сталіцы і ў ЗША. Цяпер яны ідуць усюды! Хутка павінна адбыцца прэм'ера новай рэчы Анры Бубліл і яго партнёра...

**— Дарэчы, усе гэтыя творы зроблены на падставе добрай літаратуры — "Адрынутыя" паводле Гюго, "Коткі" на вершы Т.С.Эліёта, "Олівер" паводле Дзікенса...**

— Так, і іронія якраз у тым, што Каралеўскі шэкспіраўскі тэатр зарабіў вялікія грошы на "Адрынутых", якія расказваюць пра беднякоў. Грошы, зробленыя на незаможных! Так, гэта, вядома, адаптацыі літаратурных твораў, але, вяртаючыся да сённяшняга стану мюзікла, можна сказаць, што за апошнія дваццаць пяць гадоў ён стаў англа-французскім, а амерыканцы як быццам страцілі здольнасць пісаць удалыя мюзіклы.

**— Можа, яны перапрацаваліся і перагарэлі?**

— Магчыма.

**— У пачатку гэтага стагоддзя еўрапейская форма моцна паўплывала на станаўленне амерыканскага тэатра. А як наконт зваротнага ўплыву?**

— Амерыканскі тэатр памог пераўтварэнню англійскага тэатра ў 1950-я гады, калі да нас прыйшлі п'есы Артура Мілера і Тэнесі Уільямса, якія мелі велізарную эмацыянальную і сексуальную энергію і якія паказалі многім англійскім драматургам тэатральныя магчымасці, пра якія яны і не падазравалі. Гэта быў сапраўдны шок для англічан. І гэта былі змены, вынікі якіх мы адчуваем дагэтуль. Нейкім чынам, аднак, манета цяпер перавярнулася другім бокам, таму што Сэм Шэпард і Дэвід Мэміт, якія сталі папулярнымі ў 1970-я гады, любяць еўрапейскі тэатр: Бекета і Пінтэра, асабліва Пінтэра. А з амерыканскіх аўтараў Мэміт любіць Мілера, а Шэпард — Тэнесі Уільямса. Адбываецца ўзаемадзеянне еўрапейскай і амерыканскай драматургіі. І калі вы мяне спытаеце, хто з еўрапейцаў найбольш моцна паўплываў на сучасных драматургаў ЗША, то гэта Бекет і Пінтэр, а ўвага англічан да тэксту стала прыкметнай і ў амерыканскай драматургіі.

**— Калі я быў у Англіі, мне здалося, што англійская аўдыторыя вельмі падобна на нашу тэатральную публіку, г.зн. успрымае тэатр як важную частку жыцця. Універсітэцкі выкладчык ці студэнт наўрад ці могуць уявіць сваё жыццё без таго, каб хоць бы час ад часу не схадзіць у тэатр і не паглядзець найбольш цікавыя пастаноўкі. Ці маю я рацыю ў сваіх назіраннях?**

— Думаю, цяпер сітуацыя мяняецца. Усё залежыць ад таго, пра якую ўзроставую катэгорыю ідзе гаворка. Калі пра падлеткаў і людзей, якім каля дваццаці, я б сказаў, што для іх галоўную ролю іграюць фільмы і відэа.

**— Так, у тэатры няма сістэмы стэрэагуку "Долбі"!**

— І няма аўтамабільных аварый, і няма забітых. Страчваецца парог адчувальнасці. У 19-м стагоддзі асаблівая прывабнасць тэатра заключалася ў спецыяльных эфектах, якія захаплялі масавага гледача, калі на сцэне ствараліся выявы палаючых будынкаў, пыхкаючых паравозаў, коней, што ляцяць наўзгалоп. Гэта потым увайшло ў кінематограф. Якраз гэты аспект кіно і цяпер прыцягвае гледачоў. Мне здаецца, што ў 1970-я гады магутны ўплыў мюзікла не ў малой ступені звязаны з выкарыстаннем спецыяльных эфектаў, якія вярнуліся з кіно ў тэатр. Напрыклад, у "Зорным экспрэсе" вы седзяце сярод людзей, якія катаюцца на ролікавых каньках вакол вас! А ў "Міс Сайгон" на сцэне прызямляецца верталёт! І публіка, натуральна, дружна апладзіруе, хоць гэта даволі кепскі знак, бо публіка апладзіруе дэкарацыі.

**— У "Адрынутых" глядач робіцца сведкам таго, як адначасова "маляўніча" паміраюць дзесяткі людзей...**

— Пра тое і гаворка. Але ў гэтым часткова і заключаецца прывабнасць мюзікла як жанру: ён узаконьвае спецыяльныя эфекты і першаступенна ўплывае на адчуванні публікі тым самым спосабам, што і фільмы. А п'еса для двух-трох акцёраў "працуе" больш вытанчана і далікатна. І, вяртаючыся да вашага пытання, я сказаў бы, што тэатр заўсёды быў часткай культурнага жыцця Англіі, але я не зусім упэўнены, што ён ёю застаецца для некаторых пакаленняў.

**— А ці ўздзейнічае публіка нейкім чынам на работу рэжысёра? Калі я глядзеў "Утаймаванне свавольніцы" Шэкспіра ў Каралеўскім шэкспіраўскім тэатры, мяне крыху збянтэжылі героі эпохі Адраджэння, якія раз'язджаюць па сцэне на матацыклах, веласіпедах...**

— А я бачыў "Рамэо і Джульету" ў тым самым тэатры, дзе героі ездзілі ў "альфа-рамэа", а біліся веласіпеднымі ланцугамі, не кажучы ўжо аб тым, што Рамэо і Джульета канчаюць жыццё самагубствам, уводзячы сабе наркотыкі! Я думаю, гэта адбываецца таму, што рэжысёры спрабуюць устанавіць сувязь паміж п'есай і тым, што ім здаецца рэальным жыццём і клопатамі сучасных людзей, і тым самым стварыць адчуванне, што яны робяць п'есу 1980—90-х гадоў. Але сіла гэтых п'ес якраз у тым, што яны — пра турботы, трывогі ды жарсці, якія не губляюць сваёй актуальнасці. Часам гэта "асучасванне" робіцца вельмі ўдала, ажыўляючы п'есу: не кожная ж п'еса Шэкспіра была плёнам абсалютнага генія! Гэта можа памагчы рэжысёру выклікаць рэакцыю гледача. Цяпер да нас прышчапілася традыцыя, якая прыйшла з Амерыкі: папярэднія паказы для крытыкі. Часткова задача такога паказу — праіграць спектакль на публіцы, як гэта робіцца ў кіно, дзе фільм паказваецца вузкаму колу, а потым пераманціруецца, калі рэакцыя публікі была не той, якая чакалася. У тэатры гэта не зусім так, але папярэднія паказы даюць магчымасць знайсці мелодыку спектакля, змяніць рэплікі, часам пераставіць сцэны. Калі нешта не стварае эфекту, рэжысёр можа спытаць: "А чаму б не пачаць спачатку і не зрабіць тое ці тое інакш?" Але гэта, вядома, робіцца тады, калі невялікія змены прымушаюць успрымаць спектакль інакш.

**— Дзякую за інтэрв'ю. Цікава, што многія праблемы англійскага тэатра, пра якія мы расказалі, актуальныя і для нас. А гэта толькі падкрэслівае ідэю пра непадзельнасць мастацкай прасторы і ўзаемадзеянне культур.**

**Юрый СТУЛАЎ**, прафесар

*Варшава—Мінск*

"Макбет" або "Гамлет". І пры гэтым мы бачым і чуем усіх герояў спектакля, ва ўсёй іх разнастайнасці і каларыце, калі чуем цоканне конніцы, рыпенне прыступак, песню Афеліі, выццё ветру... І ўсё ў выкананні таго самага спадара Ларэнца. А на сцэне, акрамя яго, — больш нікога. Толькі чамаданчык з дэталямі касцюмаў і рэквізіту, ды некалькі масак, якія акцёр выкарыстоўвае ў працэсе спектакля. А мы сядзім у зале 2,5 гадзіны — як 20 хвілін, і пайсці ад гэтага "Я" не стае моцы: вабна. А потым 15 хвілін апладзіруем...

Хацелася б на беларускіх фестывалях бачыць такіх вось "Я" як мага... Але ў спадара Ларэнца на два гады ўсё распісана. А нам планаваць выпадае сама больш за шэсць месяцаў... Вось яна, самая датклівая тэма — гасцяванне на Беларусі. Не гасцяванне, прабачце, работа, бо тэатр, нават калі ён не камерцыйны, гэта праца з прац!

Здаецца, ці не кожны тэатр павінен быць зацікаўлены, каб спектаклі ішлі на яго сцэне — вядомасць, рэклама... Адміністрацыя тэатраў перадусім была зацікаўлена атрымаць грошы за арэнду залаў. А фестываль "Я" — не камерцыйны. Заробак з яго — мізэрны. І сродкаў арандаваць залы не было да апошняга моманту. Дзякуй Міністэрству культуры Беларусі за трынаццаць мільёнаў на гэтую прыкрую арэнду...

Вельмі шмат праблем было ў нас і ў замежных калег з мытняй і пашпартным кантролем. Каб уехаць у Рэспубліку Беларусь, кіпрскай дэлегацыі давялося заплаціць па 80 долараў за візу. Іхняму абурэнню не было мяжы! Ні ў адну краіну свету няма такіх дарагіх візаў! Яны ехалі, яшчэ раз падкрэсліваю, не на камерцыйны фестываль, і ніяк не маглі зразумець: чаму так дорага? І чаму ім нават квітка не даюць? Што за памежнае рабаўніцтва? У кіпрыётаў — камандзіроўкі; ім маглі кампенсаваць усю суму на радзіме, але нашым памежнікам чужыя выдаткі не дужа рупілі...

А колькі праблем было з літоўскімі калегамі! 30 фартэпіянных крэселкаў, якія яны возяць з сабою для спектакля, мытня разглядала... як тавар для продажу. Два дні з 9 раніцы і да 6 вечара прадстаўнікі БНЦ МІТ і Беларускага фонду Сораса разам з літоўскімі калегамі даводзілі мытні, што гэта не тавар, а дэкарацыя да спектакля. На трэці дзень, пасля слёз і нервовых зрываў, давялі.

У маёй практыцы гэта не другі і нават не дзесяты фестываль, але такіх праблем з прыездам і ад'ездам замежных калег ніколі не было. Мы ўсімі сіламі спрабуем увайсці ў сусветную супольнасць, і як бы ні было цяжка, нас разумеюць і прымаюць. Усё часцей і часцей дзеячы беларускага тэатра выязджаюць у розныя краіны для ўдзелу ў фестывалях, сімпозіумах, стажыроўках — прычым на льготных падставах. Нам памагаюць, нам аплачваюць. Хочуць, каб мы былі разам з усімі. Да сябе ж мы не можам запрасіць без праблем і без прыкрасцяў — у некаторых калег проста не выстачыць уласнага рахунку, каб уехаць у нашу краіну і без шкоды выехаць!..

...Апекавацца нашымі "Я" і спрыяць іхняму паразуменню з мытняй ды мяжой — гэта ці не першая задача фестывалю монаспектакляў. Спрачацца з мытнікамі ды памежнікамі — гэта вам не ў журы...

**Антаніна МІХАЛЬЦОВА,**
**генеральны сакратар Беларускага нацыянальнага цэнтра МІТ**

Вячаслаў АДАМЧЫК

# САМ ПЕРАД САБОЮ

З НЯДАЎНА ПЕРАЖЫТАГА



ДАЖДЖУ НЯМА, але няма і сонца, хоць хмарнае неба падвышана. Чамусьці ўспомніўся раман Віктара Каваленкі. Вось куды можа завесці ўсяго адно слова.

"Сённяшнія паэты, — так яшчэ ў 1923 годзе пісаў Жорж Сімянон, — падобныя да першага сустрэчнага". Відома, ён меў на ўвазе найперш французскіх. А што сказаў бы, каб зірнуў на сённяшніх беларускіх? І ці захацеў бы чытаць іхнія вершы, каб яны выпадкам былі напісаны на ганаровай і ўзвышанай латыні?

І цікава ж, хто быў бы першым сустрэчным?

Барыс Парамонаў, задыхаючыся, нібы ад астмы, хрыпата тоўстым голасам па радыё "Свабода" кроіць усіх на кавалкі, пачынаючы ад Гогаля і канчаючы Набокавым, і спрытна, з акторскім майстэрствам нанізвае іх на востры стрыжань, каб падсмажыць яшчэ на мангале. Так і ўяўляеш яго кароткую бычыную шыю, мускулістыя, як у культурыста, закасаныя да локцяў рукі, а ў іх — шырокая з гарбатым тапарышчам сякера, белы, запэцканы кроўю пярэднік — і тоўстая дубовая калода. Ад жаху заплюшчваеш вочы, але серабрыста-металічны "Шарп", дзе пульсуе рубінавы ланцужок, забягаючы ледзьве не да астатняй пацеркі, не адключаеш.

І ўсё ж занадта жорсткі і неаб'ектыўны, хоць і эрудзіраваны гэты літаратурны канібалізм.

Як сцвярджаюць старажытныя рымляне (Лукіян), толькі раз у жыцці чалавек бывае шчыры — гэта тады, калі піша свой тэстамент. Таму не дзіўна, што ў дзённіках хвалёнага маэстра столькі мізэрнага і дробязнага. І пісаліся яны быдта не віртуозам паэтычнага слова, а калежскім рэгістратарам. Гэта ж трэба так: пражыць вялікае жыццё і прайсці міма яго. Аднак, нібы той паслушны і цягавіты конь у малатарні, колькі ён прайшоў кругоў вакол свайго манежа.

У чорных плашчах у старажытным Рыме хадзілі хіба толькі бедныя, што не мелі грошай, каб купіць белую тогу. Цяпер жа чорнае манаскае ўбранства носяць выключна багатыя ці то выпешчаныя, разбытыя камерсанты, члены канстытуцыйнага суда ды ўрадаўцы.

Як лічылася ў старажытных, пярун не страляе ў цюленя, арла і лаўровае дрэўца. У нас, беларусаў, ад грому беражэ святая птушка — бусел. Але я над сваёю хатаю не палажыў старую барану, каб ён там звіў сваё гняздо.

Усё ж прыгожы і непаўторны гэты рытуал — свята скрыжавання альбо ростаняў, якое святкавалася ў тым жа старажытным Рыме. Варта і мне было б ушанаваць яго, бо, помніцца, калі пакідаў шарапрыземленую родную Варакомшчыну, адчайна зашчымела ў грудзях, а на вочы набегла няпрошаная мігатлівая сляза. Разгневанаму і адзінокаму думалася, што адпомшчу ёй, пакідаючы яе назаўсёды, і за сваю адчужанасць, і зганьбаваны маладый гонар, і за даўнейшую, яшчэ падлеткавую крыўду. І вядома ж, не спадзявалася тады, што з гадамі, з не менш ранімаю сталасцю будзе так парыўна і балюча пакутаваць па ёй стомленая душа.

Ад свайго — і праўда што — не ўцячэш.

У закутку кніжнага стэлажа яшчэ выпадкова выхаваліся дзве каробкі (па 200 штук) анадзіраваных і нікеляваных пёраў, якімі калісьці пісалася "Чужая бацькаўшчына". Пёры з ружавата-празрыстаю пластмасаваю ручкаю і флакон фіялетавага чарніла ад выезду да прыезду ў драўляны паляўнічы каралішчавіцкі дом хаваліся найлепш у цёплым мурашніку, недалёка ад гравійкі, у маладым сасонніку, поруч з топкім балотцам, дзе хадзілі небаязлівыя ласі.

Цяпер там, як бачыў, пралягла бетонная незрушная аўтастрада, назаўсёды пахаваўшы і мурашнік, і малады лясок, і мае нікеляваныя пёры з флаконам фіялетавага чарніла, і пахучы вербалоз у жоўтых катках і ўвішных пчолах.

Застаўся ўсяго толькі раман. Няўжо час жорсткай русіфікацыі магільным бетонам накрые і яго?

Ноччу не спалася — перажываў за ўчарашняе.

Я прыйшоў у Дом літаратара, каб атрымаць благаславенства, а атрымаў праклён, і выйшаў адтуль апляваны нянавісцю і пагардаю.

Мы шукаем Хрыста-збавіцеля, а знаходзім — д'ябла-спакусніка. Свет даўно перавярнуўся дагары нагамі.

У сённяшні дзень, праўда, покуль без грукату гарматаў і кулямётных чэргаў, вяртаецца псіхоз вайны: адчужанасць, нянавісць, помста.

Адутлаватыя, бурачкова-спітыя твары маладых мужчын поўныя злосці, агрэсіўнасці — і абмежаванасці, вядома.

Сёння ў беларускай літаратуры няма перад кім стаць на калені, хіба толькі перад самім сабою.

Як Адама з раю, так мяне з Дома літаратара выправаджалі за грэх мой. А ён, гэты грэх, — два мае небяздарныя сыны. І ўсе тыя, хто, каб, пэўна ж, не скалечыць ні сыноў, ні ўнукаў сваіх беларускасцю, не навучыў іх роднаму слову, помслівыя ад зайздрасці, неаднойчы ўжо з непрыхаванаю злосцю пыталіся ў мяне, прымружваючы жорсткія вочы: "А нашы дзеці хіба горшыя?"

Я, вядома, моўчкі, але згаджаўся — горшыя!

І, дзякуй Богу, унук мой чуйны да беларускага слова.

Але, як навучае разумная прымаўка, адкуль грэх, адтуль — і спасенне.

У запісных кніжках Венядзікта Ерафеева, аўтара папулярнай, трохі, можа, прэтэнцыёзнай аповесці ці, праўдзівей, паэмы, як называе яе сам, пераймаючы бясспрэчна Гогаля, — "Масква—Петушкі", ёсць невялікая цытата, узятая ў двукоссе. Адкуль і чыя яна — невядома. Сутнасць яе ў тым, што арнаментальная руская проза 20-х гадоў бярэ свой выток ад Рэмізава, а той ішоў ад Гогаля (дзіўнае), Дастаеўскага (боль) і Ляскова (праўдзівае). Ерафееў, пэўна, і сам захапляўся, як і кожны з нас у далёкай маладосці, узорыстым, тканым, нібы вясковы пояс, хітравата падробленым пад казку альбо байку пяшчотна-саладжавым стылем.

Цяпер жа "избенной" рэмізаўшчыны — гэтай тэндатовай падробкі пад народнасць, у чым мае грэх і наша вясковая проза, я ўспрымаць не магу. Не магу пераступіць цераз абрыдлыя фальклорныя штампы: ліха-аднавокае, гора-бяда, лыкам падперазаная. І колькі ні браўся, перасіліць сябе не мог, з кожным разам адкладваючы ўбок рэмізаўскі томік у мяккай папяровай вокладцы.

Над ружова-дымнымі, заінелымі прысадамі — ліпамі, клёнамі і каштанамі — расцягнуўшыся доўгім шлейфам, кружыць вялікая чарада драздоў і за імі ройна мітусіцца, імкліва расплываецца, як малькі на плёсе, ізноў збіраецца да купы немалая статка драбнейшых снегіроў.

Якая радасць і абнова неспакойнага жыцця над халодным заснежаным горадам.

Пацеркамі, срэбнымі ланцужкамі на шыбе акна крапліста дождж — і пацеркамі збягаюць успаміны... Два вялікія палавыя валы панура туляцца пад застрэшак нашага гумна і, згаладалыя, бяссільна цягаюць з страхі няўежную салому. Гэта — з вечара. Зранку яны ўжо абодва ляжаць недалёка ад падрубы, выцягнуўшы спруцянелыя ногі. Я стаю пад застрэшкам, дзе, беспрытульныя і адзінокія, яны ўляглiся нанач. Поруч з імі бацька капае глыбокую жвірыста-ржавую яму, а на яго несціхана лье золкі верасьнёвы дождж. Прайшоўшы адлегласць мо ў тысячу кіламетраў, з сакавітых лугоў Памора ці Эльбы, яны, магутныя валы з нямецкае аборы, дайшлі да нашае згаролае і яшчэ не адбудаванае Варакомшчыны, каб сканаць на няшчымным прыгуменні, выпасеным папярэдняй чарадою. О, колькі пала іх, чорна-белых галандскіх кароў, наўкруга нашае вёскі — у прышашэйных канавах і на поплаве між завоінай і рэчкаю. І так, мусіць, па ўсёй дарозе — ад Берліна да Арла альбо Варонежа. Чыгуначныя саставы спатрэбіліся пад іншае нямецкае багацце — станкі, мэблю, хатні спрат, — а ў быдла, вядома ж, былі дармовыя ногі. Аднак такую дарогу магла вытрываць і не падбіцца хіба толькі адна з сотні дагледжана-выпешчаных, далікатных галанак.

Зноў пацеркамі дождж — і зноў пацеркамі нанізваюцца ўспаміны...

Перадкалядная раніца. За дзяркатымі вугальна-чорнымі, нібы перапаленымі, дрэвамі — вадзяніста-блакітнае неба з ружова-дымнымі завіслымі хмаркамі. Залацістая слюда на вокнах. І ўбачылася непрытульная халодная варакомская зіма, бацькава хата, поўная кіславата пахучых кажухоў (на шастках за грубкаю і на сценах), вугравата шорсткія вокны, непраглядныя з-за тоўстай намаразі, а за імі — цяжкае, непаваротнае парыпванне намерзлага калодзежнага жураўля, — суседзі чэрпаюць ваду...

Чытаю чужое, а бачыцца перажытае сваё.

Цвятаева, яе аўтабіяграфічная проза — "Дом у Старога Пімена".

"Студзень і ноч... За акном — мерзлы сад. Пад самым акном — на ўсю дубовую аканіцу — замерзлы бэзавы куст, як вартаўнічы пост.

...Стук. У аканіцу — стук, замерзлаю галінкаю, як замерзлым пальцам. Раз і другі... "Хто там?" — "Іван, дворнік"... Заходзіць. Стаіць. Вочы не тыя. А. А., уладна і нервова: "Ну?" — Упалым голасам: — "Ну кажы ж". Той у дзверы: — "Хлопцы, заходзь!"

Прыйшлі шайкаю. Прыйшлі за мільёнамі, а знайшлі ўсяго толькі шэсцьдзесят чатыры рублі з капейкамі".

Чытаю, а бачу сваё. Новы, на высакаватым каменным падмурку, смалісты дом. Лічбы на шэрым цэменце між ружаватых каменняў — 1939. І лацінскае "г" — рок, значыць. Гаспадар прыгожага выштукаванага дома — местачковы сталяр. Жонка яго з паважнай сям'і — пападзянка. Іхні сынок, мой равеснік — адзінак. Як кажуць, на далоні калыханы. Так і помніцца з ваеннага прадзім'я яго стракатае, моднае паліто з хлясцікам і гэтакая ж стракатая кепачка. У дадатак ён мой аднакласнік з беларускае школкі, што была поруч з яго домам на кароткай пясчанай вуліцы, атуленай ружавата-залацістымі стромымі соснамі.

У рупнага сталяра ад жончынага пасагу засталося, напэўна, яшчэ папоўскае золата. І ноччу ў блакітныя аканіцы фацэтнага дамка пад кучаравымі ўзнеслымі хвоямі, што мякка і вусцішна шумелі над зіхатлівым цынкавым дахам, таксама пастукалі. Але ціха, з пэўнымі, мусіць, знакамі і прыкметамі. Бо адчыняў не гаспадар, а служанка, што была ў яго. Па дамоўленасці са сваяком, што прывёў шайку.

Мне расказваў ужо блізу пятнаццаць гадоў таму, трохі развярушаны кілішкам, сусед тых трох, што ўвайшлі глухою ноччу ў канцавы местачковы дом. На другі бок вуліцы было ўсяго толькі пустое гета — там, за тугімі струнамі калючага дроту ўздымаліся піраміды нацюкаванага сена. Адзін з тых трох і быў пры гэтым сене сторажам, і, вядома, спакусліва і недаступна назіраў за звабным багатым домам...

Сталяроў дом, як і цвятаеўскі Дом у Старога Пімена, скончыўся ў двайной крыві. Розніца хіба ў тым, што там шайку лавілі, а тут яна — прадалася сама. Згубіла сквапнасць — золата не падзялілі. І пабеглі — адзін да партызанаў, другі — у СД. Куды замальдаваў трэці — не ведаю. Немцы ж чорную гідкую справу самі не выконвалі — для гэтага меліся спадручныя. Арыштантаў перадалі казакам. Смерць была нечувана страшнаю — ужо каля нашае вёскі на хутары, — з выколваннем вачэй, адразаннем насоў — і палавых органаў.

Балазе, збярогся ён, хлопчык. Маці, кажуць, ускорала закідаць яго коўдрамі і падушкамі. Я выразна і балюча бачу яго бяскроўны твар, недаўменна маўклівы позірк і адчужаны пасля той трагедыі, што ўздрыганула мястэчка. Ён помніцца на крутой сцежцы ў прышашэйнай запыленай канаве. Недалёка ад свайго, ужо таксама пачужэлага дома. У школу ён, вядома, ужо не хадзіў. І праз год ці два знік з мястэчка разам са сваякамі ў Польшчы.

А мне зноў не дае спакою і спакушае балюча-жахлівае спытаць больш, пэўна, у самога сябе: як жа ж яму ў сённяшні перадкалядны ранак з залацістаю слюдою на вокнах успамінаецца наша агульнае мястэчка з тае нечуванай страшнае вайны? Як яму?

Раней ведалася, што людзі бываюць заражаныя пранцамі, каростаю, лішаямі-шолудзямі, тыфусам, гішпанкаю, чумою, а нядаўна дазнаўся, што акрамя сніда з'явілася і лагерэя — хвароба, спароджаная радыё, тэлебачаннем, сходамі і мітынгамі, — бясконцая цяга гаварыць.

З педыкулёзам можна змагацца дустам альбо іншымі хімічнымі сродкамі, а чым жа ж абсыпаць заражанага крываўкаю балбатні?

Але ж пра гэтую хваробу ведалі, мусіць, і старажытныя, бо чаму ж радзілі: "Язык твой няхай не апярэджвае розум". Сказаў гэтае прароцтва адзін з сямі мудрацоў — лакедземанянін Хілон.

У акне суседняга дома, як на ўзбекскай касынцы, размытасць чырвоных воблакаў і зеленаватых з сінімі палосак неба. Марозны рыпучы ранак. Карычнева-бэзавыя заінелыя прысады. Імклівая чародка шара-срэбных амялушак. Тая сцішная пара ў расчышчаным чырвоным калёсным "Беларусам" і падскрэбеным шырокаю фанернаю лапатаю гарадскім двары, калі спешненька прабеглі ў блізкую школу клапатлівыя, наўздзіў сур'ёзныя дзяўчаткі і зухавата расхрыстаныя хлопчыкі і на заснежаную асфальтавую дарожку з ясеня, увешанага дрыготкімі барадамі карычневага насення, небаязліва злятае клышаногі грак, а ўслед за ім недзе ўжо з карніза дома папяровым самалёцікам плануе даўгахвостая сарока.

Менавіта ён, чорна-ружаваты грак, што ўжо, асвойтаўшыся пры гарадскіх сметніках-кантэйнерах, не адлятае нават у блізкі вырай і ходзіць штораніцы пад маім акном, і рабінава-чырвоны вялікі сшытак, што даўней называлі брульёнам, і які я толькі што загарнуў, узнавілі зноў ужо не новы і нават, прызнацца, абрыдлы ўспамін пра вайну. У гэтым брульёне я перачытаў запісаныя мною ўжо блізу пятнаццаці гадоў таму ўспаміны спачатку польскага сяржанта, што бараніў Варшаву ў трагічным для яе верасні 1939-га, потым — афіцэра Беларускае краёвае абароны, нарэшце — вязня сталінскае турмы і лагера і напаследак — нервова-ўзбуджанага, выпетранага пенсіянера ў сваёй прыземіста-цемнаватай хаце ў канцы пясчанае местачковае вуліцы.

Да ўласна перажытага ў вайну я дадаваў нямала чужога, бо назапашваў дакументальны матэрыял для рамана "Голас крыві брата твайго", і мяне цікавіў найперш і найбольш навагрудскі перыяд майго субяседніка — служба ў шэрагах БКА.

Дзякуй Богу, ён не збаяўся, толькі для перасцярогі папрасіў, каб мы засталіся ўдвух у непаваротным пакойчыку з круглым сталом, засланым ільняным серабрыстым абрусам, за які мы, дарэчы, і селі адзін насупраць другога. Абапал нас —

(Працяг на стар. 14-15)

Жыццё азмрочанае хваробамі, асабліва астатнія тры гады, на якія выпала дзве пакутныя аперацыі. Паскудная анкалагічная вежа, куды прыходзілася звяртацца ўсё часцей і часцей. Вузенькая геаграфія — прагулкі па бальнічным двары. А так хацелася яшчэ раз зірнуць на родныя з ваеннага дзяцінства Хібіны. Убачыць пекную Варшаву, зманлівую Грузію, велічны Парыж, адкуль прыходзілі настойлівыя запрашэнні. Так шмат хвалы ў канцы жыцця і так мала надзеі на нешта блізкае...

Прыгадаўся спярша наш Стральцоў — яны равеснікі. А потым — вядома, ж Гофман. У кожнага з іх было непакананае і ўпартае — жыць, жыць, чаго гэта ні каштавала б! Аднак, страшна падумаць, якім коштам цярпення і пакут давалася кожная хвіліна найдарожшага жыцця. І ўбачыўся брат — яго сіняватыя вочы, поўныя глыбокай надзеі і вінаватасці.

Мой бацька, Ладзімер Тодаравіч, працуючы каля трыццаці гадоў на таварнай базе спярша грузчыкам, а пасля — вартаўніком, ад наезджага featured рознага люду, асабліва шафёраў, экспедытараў і вагаўшчыкоў, набіраўся нямала чужых слоў — украінскіх, рускіх, польскіх — усёй гэтай, як сёння ў жарт мы кажам, трасянкі, на якой гаварыла наша прыгыгуначнае мястэчка. І яму, чалавеку, які толькі год правучыўся ў вясковага настаўніка, здавалася, што гэта і ёсць мова адукаваных людзей, на якой, адпаведна, і яму належыць гаварыць. Помню, як аднаго разу, вярнуўшыся з той жа базы, бацька пачаў расказваць пра чарговае здарэнне, што адбылося на чыгуначнай станцыі, закідваючы пры гэтым па слову, па два з прывычнага для сябе мясцачковага жаргону, маці ж, не доўга паслухаўшы, перабіла яго:

— Ды гавары ты, Ладзімер, па-чалавечы!

Вось гэты матчын наказ гаварыць пачалавечы — гэта значыць, па-беларуску — і запомніўся мне на ўсё жыццё. Я незваротна і наследую яго.

Праўду кажуць: век жыві, век вучыся. Я не ведаў, напрыклад, покуль не разгарнуў тлумачальны слоўнік, што шкло з драцяною сеткаю ў сярэдзіне называецца арміраваным.

З гэтага шкла, помніцца, былі вокны ў драўляным дэпо вузкакалейкі, збудаваным яшчэ немцамі ў першую сусветную вайну і спаленым, ужо партызанамі, у другую. Спраўныя і працавітыя немцы адбудавалі яго зноў, праўда, ужо з цэментных блокаў, і ўставілі вокны з тым жа самым арміраваным шклом.

Вузкая калейка, што злучала Навагельню з Навагрудкам і па якой бегалі яшчэ нямецкія паравозікі, была зліквідавана дзесьці ў годзе 55-ым. Паравозы і вагоны перакінулі на іншую чыгунку, а ў дэпо адкрылі майстэрню — рэзалі на калоды для мясных аддзелаў старажытныя беларускія дубы. Даразалі тое багацце, якое не паспелі вывезці немцы: яны ж дзеля гэтага і правялі вузкую калейку, адгалінаваўшы ад яе ў кожны старавечны бор яшчэ па чыгуначнай ветцы.

Балюча і адчайна бачацца ўзнёслыя ружаватыя сосны і гэтакія ж адзінокія пасівелыя з гадамі прыгажуны, што помняць, мабыць, Кірылу Тураўскага, ссечаныя ўжо ў барах і дубровах каля ракі Случ у Жыткавіцкім раёне. Ды ці мала знішчана прыгожых дрэў, як і прыгожых людзей, на пакутнай беларускай зямлі. Прыгадаўся, усплыў даверасянёўскі радок Танка: "Гляджу і гляджу з-пад рукі, як наша юнацтва вывозяць".

Пішучы "Дванаццаць" — не лепшае сваё — Блок чамусьці ўсхваліў самога сябе: "Сёння я — геній".

Гэта быў пачатак заняпаду паэта і чалавека.

У тыя ж, прыкладна, дні Ясенін запісаўся ў баявую дружыну. І гэта азначала пачатак канца.

У Блока яшчэ чатыры гады заставаліся да кароткай і ўжо астатняй фразы: "Мне цяжка дыхаць, сэрца заняло паўгрудзей". І не так далёка да ясенінаўскага: "До свидания, друг мой, без руки и слова..."

Чамусьці заўсёды шкадую, што няма запісных кніжак Янкі Купалы. Можа, расчараваўся б, як у прымітыўна рэгістрацкіх дзённіках Танка, а ўсё роўна шкадую... Купала — гэта ўжо асаблівая вартасць і каштоўнасць. І нават павагу да яго ў мяне ўваскрашае яго трагічная і загадкавая смерць. Яна — таксама смерць нацыянальнага генія.

# Аляксандр УЛАДАМІРСКІ



Купалаўцы, а з імі ўсе, хто любіць тэатр, смуткуюць і жалобяцца з прычыны заўчаснай смерці Аляксандра УЛАДАМІРСКАГА, — бліскучага акцёра, светлага чалавека, маладшага са знанай тэатральнай дынастыі Уладамірскіх. Вядомасці й творчага плёну ён прычакаў на купалаўскай сцэне, хоць паспяхова браў удзел у пастаноўках іншых тэатраў, а таксама радыё і тэлевізійных. Адмысловае выкананне роляў у спектаклях паводле А.Макаёнка, Янкі Купалы, В.Быкава, Я.Шабана, І.Чыгрынава, Міхася Чарота, А. Дударава, У. Някляева, А. Жука, А. Петрашкевіча, І.Мележа стварыла і ўмацавала ягоную адметнасць беларускага нацыянальнага акцёра. Ролі з сучаснай рускай драматургіі і з сусветнай класікі давялі ягоную акцёрскую універсальнасць, рознабаковасць.

Аляксандра Уладамірскага не стала ў 46 гадоў. Бывай, дарагі наш дружа, выбачай, калі засталіся ў чымсьці перад табой вінаватыя.

**Саюз тэатральных дзеячаў Беларусі,**
**Саюз беларускіх пісьменнікаў,**
**рэдакцыя "ЛіМа"**

ВАНДРОЎКІ

# СЛЯДАМІ ЛЕГІЁНАЎ

Альпы сляпілі вочы беллю чэрвеньскага снегу. Самалёт нібы завіс нерухомай жалязякай, а горы ўнізе ціхенька сплывалі навек скамянелымі гігандкімі зморшчынамі перадгістарычнага землятрусу. У прынцыпе вобраз банальны, кожны пасажыр перажываў той жа самы псіхалагічны падман. А мне хацелася паверыць у яго ўсёй душой, з перакананнем архаічнага жыхара Вялікай Грэцыі (так называла сябе антычная Італія), які не ведаў Каперніка, а па-птолемееўску верыў, што Зямля — цэнтр сусвету, і гэта Сонца круціцца вакол нас. Немагчыма было разабрацца, ці мы ўляцелі ў прастору Італіі, ці гэта яшчэ Аўстрыя, дзе мінулы раз, калі ехалі цягніком, мытнікі хацелі адабраць увесь наш запас чырвонага віна. Цяпер ім можна паказаць у ілюмінатар дулю і паспрабаваць задрамаць.

Наіўныя спадзяванкі не апраўдаліся. Мэта падарожжа — самая паўночная вобласць Італіі пад малаітальянскай складанай назвай Трэнціна-Альта Адзіджэ аказалася спрадвек спрэчнай тэрыторыяй, накшталт нашай Віленшчыны. Каб вярнуць яе, падчас першай сусветнай вайны апенінскае каралеўства ахвяравала жыццямі 700 тысяч італьянскіх салдат. Але паводле Парыжскага замірэння адцяла сабе і зусім карэнна аўстрыйскія тэрыторыі. Венскі імператар тым часам паслаў ненадзейных падданых з італьянскай меншасці ваяваць супраць Брусілава ў Букавіну. Таксама як беларускае 100-тысячнае войска аказалася на румынскім фронце, падалей ад Айчыны. Безумоўна, яны сустракаліся там, ваяры народаў, якім тая вайна была чужой.

Мусаліні не верыў свежаспечаным сугрмадзянам, якія ўсё пагдалі за Альпы ў бок Вены, і вырашыў разбавіць насельніцтва сапраўднымі патрыётамі. Катэйль атрымаўся экзатычны. Бо дучэ перасяліў у гэты паўночны край дзесяткі тысяч ураджэнцаў Сіцыліі і Калабрыі. Каментаваць не трэба. Аўстрыйцы, аднак, цалкам захавалі сваю непаўторнасць. Цяпер самая паўночная правінцыя Італіі Бальцана (па-нямецку — Боззэн) мае вельмі шырокую культурную і эканамічную аўтаномію. Без ведання нямецкай мовы не тое што на працу не возьмуць, у краме не абслужаць. Надпісы на дзвюх мовах, Біблію з амбона ў саборы чытаюць у Лютэраным перакладзе. А на цэнтральнай плошчы Бальцана стаіць некласічны помнік легендарнаму Зігфрыду (можаце сабе ўявіць у Невелі або ў Смаленску манументы Гедымінавым або Альгердавым подзвігам? Хаця пра што я? — Іх няма і на Беларусі). Мясцовы дыялект Нямеччыны абудзіў дзіўныя ўражанні маленства, калі чуў гергетанне яўрэйскіх пенсіянераў у гомельскім парку. Яны грэліся на сонейку на алейцы, празванай у народзе "Інфаркт-штрасэ", і на ідзіш пляткарылі пра цэны і вынікі шасцідзённай вайны ў Палесціне. Мала таго, мне паказалі вёсачку, што ластаўчыным гняздом прыляпілася ля вяршыні скалы. Там жыве каля трохсот кімраў, з германскага племені, якое штурмавала Рым. У І ст. да н. э. іх урэшце разграміў знакаміты палкаводзец Марыюс. Вёска цяпер — адзіны на зямлі маленькі ачаг культуры і мовы кімраў. Мара кожнага лінгвіста пабываць у апошніх магікан. А яны і не збіраюцца выміраць.



Раверэта. Замак.



Трэнта. Сабор св. Вігілія.

Рэчышча ракі Адзіджэ рассунула горы, зялёнай далінай пралягло да самай заальпійскай Еўропы. Гэтым калідорам прайшлі ўсе заваёўнікі: Ганібал, вандалы, лангабарды, Карл Вялікі, Напалеон і Сувораў, пра якога тут ніхто не ведае. Яны забыліся, таму што ён тут не застаўся. А мы памятаем. Метады былі тыя ж: генералісімус крычаў перад шыхтамі: "Салдаты, аддаю вам горад на тры дні!" і "чудобогатыри" "вызвалялі Італію".

Мастакі і архітэктары працавалі тут нароўні з вайсковымі інжынерамі. Вясковыя цэрквы будаваліся, як у нашых Сынкавічах і Маламажэйкаве, з вокнамі-байніцамі, на ключавых стратэгічных пунктах. Магутныя замкі нібыта самі сабой вырастаюць на скалах, настолькі натуральныя іх абрысы ў наваколлі, дзе велічна гучыць дыялог нябёсаў і гор. Паўсюль: у мястэчках, музеях, на старажытных могілках разгортваецца спаборніцтва сімвалаў. Кудлаты леў Святога Марка — сімвал Венецыі, царыцы мораў, якая стагоддзямі змагалася з пераменным поспехам за гэтыя тэрыторыі з цірольскімі князямі і аўстрыйскімі Габсбургамі. Герб апошніх — злы чорны арол з натапыранымі пёркамі — упарта не саступае пазіцый. Затое, якая чысціня геральдычнага стылю! Гэта вам не наступ "капусты" на "Пагоню".

Замак горада Раверэта — звяно ў бясконцым ланцугу альпійскіх умацаванняў, цяпер у ім ваенна-гістарычны музей. Невыпадкова, таму што тут больш за два гады праходзіў фронт у першую сусветную вайну. У адной з вітрын непрыкметна зашылася палінялая светлая шмата на дручку. Гэта белы сцяг, імправізаваны аўстрыйскімі парламенцёрамі ў лістападзе 1918 года, каб прасіць міру. Калі распачыналі бойню, то хапала яркіх сцягоў, залатых эпалетаў, аркестраў, а для міру давялося шукаць прасціну... А ў 1487 годзе невялікі венецыянскі гарнізон трымаўся тут 37 дзён пад ударамі шматлікага аўстрыйскага войска і здаўся пасля амаль поўнага разбурэння замка аблежнай артылерыяй. І гэта толькі фрагмент хронікі краю...

Еду і думаю, што гэта за Трэнта такое. Такі "граматны", а ніколі не чуў. А ўбачыўшы лес званіц і вежаў, дапетрыў — гэта ж Трыдэнтум, за які спускалі скуру на экзаменах! На вуліцах горада ясна прачытваецца рэгулярны план, прачэрчаны некалі вастрыём дзіды дзяжурнага цэнтурыёна перад пабудовай лагера для авангарднага легіёна. Праз усю антычнасць і сярэднявечча пульсавала жыццё па гэтых рэгулярных, прамых артэрыях. Прыгажосць Рыма, Венецыі, Фларэнцыі захапляе. Але Трэнта непаўторны ў бліскучай гармоніі архітэктурнага арганізма, у зладжаным спрадвек адзінстве урбаністычнага шэдэўра. Замак, гарадскія муры, аркады, касцёлы, фантаны, скульптуры — панарама разгортваецца ў такой арганічнай цэласнасці, што, здаецца, выраць любы элемент — і канструкцыя пагрозліва захістаецца.

Горад на скрыжаванні шляхоў з лацінскага поўдня на германскую поўнач таксама пераходзіў з рук у рукі, паслядоўна сінтэзаваў стылі і дух дзвюх еўрапейскіх культурных стыхій. Кожны помнік мініяцюрна адлюстроўвае гэтую генеральную тэндэнцыю. У гарадскім саборы Св. Вігілія адбываліся падзеі сусветнага значэння. З 1545 па 1563 год тут праходзілі пасяджэнні Трыдэнцкага сабора, на якім была выпрацавана праграма і стратэгія контррэфармацыі. Раманскія аркі і пілоны, нервюрныя скляпенні зашыфравалі гнеўныя анафемы каталіцкіх іерархаў. Адсюль пайшлі загады паліць на інквізіцыйным вогнішчы "Біблію Радзівіла" і зачыняць кальвінскія зборы ў Вялікім княстве Літоўскім. У перапынках біскупы абмяркоўвалі, колькі д'ябла могуць змясціцца на кончыку іголкі. Рымакаталіцызм перажываў глыбокі крызіс. Эстафету выратавання Заходняй Царквы прыняў у 1596 годзе Брэст, горад уніі.

Хрысціянскія традыцыі жывуць у сэрцах трэнцінцаў. Кожны год добраахвотнікі з фонду "Дапаможам ім жыць" прымаюць сотні беларускіх дзяцей, пацярпелых ад чарнобыльскай бяды. Сардэчная падзяка сем'ям Сільвіна, Джэрардзі, Эндрыцы і многім, многім іншым, хто падараваў свята нашай дзятве.

Начным стартам з аэрапорта Вероны пачынаецца дарога дамоў. У цемры расплаўленым золатам зіхацяць агні горада. Сярод іх яркая крапелька — там дом Джульеты, Мека ўсіх закаханых. Але гэта — ўжо іншая гісторыя...

**Валеры БУЙВАЛ**

***Выдавецтва "Navia marionum" ("Карабель дурняў") узнікла з пераканання мастака Андрэя Фядорчанкі ў тым, што наша інтэлігенцыя не можа плаціць шалёныя грошы за кнігі, прафесійна ёй неабходныя. Што трэба друкаваць кнігі, якія былі б ёй па кішэні. Перш-наперш — спецыялістам. Як мага недарагая прадукцыя, але не на шкоду чытацкаму густу (ён не заслужыў кепскае паперы, дрэннага набору і да т. п.). А потым... трэба было даць на рынак такую кніжку, якая, можа быць, як кніжка насампершая, і не адпавядала б ягоным канцэптуальным выдавецкім патрабаванням, але стварыла б выдавецтву адметны, запамінальны вобраз. Выдаўцы на чале з Фядорчанкам сваім насампершым аўтарам абралі Гофмана. Нягледзячы на тое, што выдаюць яны па-беларуску, Гофман выйшаў на рускай мове, бо хацелася як мага пашырыць чытацкае кола. Рызыкнулі выпусціць Гофмана менавіта ў той момант, калі з'яўляецца ягоны, Гофманаў, Збор твораў (праўда, за шэсць гадоў у Расіі выпусцілі толькі тры тамы). Чаму Гофман? Таму што — вядомы... невядомы. Яго як мае быць чытач не ведае, але ведаюць нават дзеці (паводле дзіцячых адаптацый), дый збольшага Гофман — як арыенцір на ўваходжанне ў еўрапейскую культурную прастору. Усе супрацоўнікі "Navia marionum", дарэчы, адданыя прыхільнікі пісьменніка: кідалі паперкі ў капялюш, вырашаючы, які спіс літаратуры абяруць для сябе. І ва ўсіх пад першым нумарам значыўся Гофман...***

***Андрэй Фядорчанка — Гофманаў зямляк (нарадзіўся ў Кёнігсбергу) і ягоныя першыя мастацкія ўражанні, паводле самога Андрэя, "Гофманавы, гатычныя..." А чаму "Карабель дурняў"? Ён мае для нас багата асацыяцый. Ад сярэднявечных карнавалаў да фільма Феліні "Карабель плыве". А самі выдаўцы, як высветлілася, абіраючы назву, мірсцілі... англійскую народную баладу пра трох мудрацоў, якія ў навальніцу па моры плылі ў балеі... Постэр на кніжны кірмаш рабілі вялікі, і жадаючыя маглі пазнаць у гэтых трох мудрацах Канфуцыя, Сакрата ды Ніцшэ. У храналагічнай паслядоўнасці. Праўда, прызнаецца Андрэй, яны, выдаўцы, далёкія ад таго, каб сябе атаясамляць з імі, самаіронія — адметная рыса Андрэевага характару...***

# "НАША ЭСТЭТЫЧНАЯ ВОЛЯ ТАКАЯ..."

— Мы хочам сёе-тое дадаць беларускаму чытачу, — сур'ёзнее Андрэй. — З таго, што было яму не дадзена ў межах Адраджэння, як мы яго разумеем, як успрымаем. А ўспрымаем мы яго хіба як аналаг еўрапейскага адраджэння, — цяпер, значыць, перажываем канец нашага Сярэднявечча і пачатак таго, чаго... не мінуць. Мо і ў Цэнтральнай Еўропы цяпер — таксама падобны, адраджэнскі, працэс?

Саспела для дадання "сяготаго" найбольш адукаваная частка нашага грамадства, — без наігранай сарамлівасці заўважу, што адчуваю гэта па сабе. Пачуваюся... часткай нейкай трапнай, адметнай, вызначанай інтэлектуальнай функцыі. Адчуванне абсалютна новае — злучэнне свайго "інтэлектуальнага вострава" з "вялікай зямлёй", а мне ўжо сорак! Балазе, ёсць зямля, да якой... даплысці б. Наша ўсвядомленае месца, на маю думку, у Еўропе. Для мяне еўрапейскасць атаясамляецца з інтэлектам, а праваслаўныя каштоўнасці больш за ўсё — з духам, з пачуццём, з тым, што за межамі розуму. Але якраз строгага асветніцкага розуму беларусам доўгі час бракавала.

Не бывае прыватнай прафесійнасці без адчування нейкіх агульных або падагульняючых канцэпцый. Каб нешта варта й прафесійна рабіць, трэба добра ўяўляць, якое месца гэтая твая справа займае ў жыцці. Я — толькі кніжны прафесійнік. Кніга — адзіны спадарожнік чалавечай цывілізацыі, які прынцыпова не змяніўся з дня свайго з'яўлення на свет божы. Усе функцыі — ранейшыя, каштоўнасць кнігі як прадмета была, ёсць і будзе. Здаецца, вызначальныя законы кнігі былі знойдзены раз і назаўжды. Мяняліся стылі, школы ў мастацтве, — гэтыя змены адбіваліся перадусім на дэкаратыўным аздабленні кнігі. Урэшце, калі я яшчэ вучыўся рабіць кнігу, яшчэ падступаўся да яе, дык выснаваў: будучае кнігі — гэта яе мінулае. Старыя кніжныя майстры знайшлі свой філасофскі камень, найлепшыя ўзоры кніжнага мастацтва далі часы барока і адраджэнне. Потым мы кніжкі толькі псавалі. Асабліва варварскае дзевятнаццатае стагоддзе і ці не ўсё дваццатае таксама. Я да сёння прыхільнік школы Яна Чыхальда (памёр у 1971 годзе. — **Ж. Л.**), які калісьці ўваходзіў нават ў Баўхаўз (а лявейшых у мастацтве, здаецца, не было), а потым вярнуўся да самага кансерватыўнага разумення кнігі. І выпрацаваў стыль! Знакаміты Пінгвін-букш. Дык вось, спадар Ян казаў, што кніжная ілюстрацыя не павінна мець глыбіню большую за таўшчыню кнігі, — а толькі на масу кніжнага блока. Груба кажучы, Дарэ для кнігі не падыходзіць, ён кнігу правальвае, Дарэ лепш глядзець у зале на выставе. Як частка кніжнага дызайну ён — бессэнсоўны. А вось рускі графік Бісці — геній кнігі. Пікасо ды Маціс, як сведчыць гісторыя, няшмат задавалі сабе працы з кнігаю, але ілюстравалі яе ідэальна. Ім не здраджвалі ні густ, ні інтуіцыя. Традыцыйна, кансерватыўнае разуменне кнігі — наша выдавецкае крэда. Яно адразу дазволіла нам вылучыцца на кніжным рынку з "Серапіёнавымі братамі".



Другая кніжка — зусім іншая, але ідэальна ўкладаецца ў нашу палітыку: яна для дзяцей, якія толькі пойдуць у школу. Якіх трэба арыентаваць на вызначальныя жыццёвыя каштоўнасці: школу, сяброў, Раство Хрыстова, свята... Серыя мае назоў "Зосіна палічка", першая кніжка серыі — "Кася ў школцы". Выбралі дзявочае імя як увасабленне адметнай, бідэрмейеравай утульнасці, мяшчанскай у лепшым сэнсе слова. Не якая-небудзь Барбі... Тэкст падавалі з улікам кансультацый псіхолагаў ды педагогаў. Для ўражання, для ўзмацнення ўздзеяння, давалі скрозь смачныя запамінальныя слоўцы. Серыю выдаём класічнай тарашкевіцай, пры канцы кніжкі — слоўнічак. Усіх кніжак на "Зосіну палічку" стане восем.

Што да праектаў... У рамках праграмы "Адкрытае грамадства" і з дапамогаю Фонду Сораса рыхтуем адметны падарунак для інтэлектуалаў, — работы Фуко, Фернана, Брадэля, Фрэйда. Дарэчы, частка з іх, абвешчаных у серыі з трохсот назваў, ужо выдадзена, але — у розных выдавецтвах. Без адзінай, мовім так, эстэтычнай волі. А гэта ўсё-такі серыя, яна мусіць пазнавацца, вылучацца ў кнігарнях. Выдаўцы раіліся, дамовіліся вытрымліваць адзіныя стандарты, распрацавалі эстэтычныя прынцыпы, хоць для кожнага з выдавецтваў, што бяруць удзел у праекце, пакінулі месца для эстэтычнага самавыяўлення, — "Лекцыі", "Тэхналогіі", "Эўрафорума", "Беларускага гуманітарна-адукацыйнага цэнтра"...

Я не думаю, што памыліўся, заняўшыся кнігавыданнем цяпер. Нават з пункту гледжання прагматыка. Цяпер абсалютна паўсюдна зарабіць цяжка, узбагаціцца — немагчыма. Стан дзяржавы не спрыяе, а часам і не дазваляе развівацца недзяржаўным формам уласнасці. А хто, як не кнігавыдаўцы могуць зрабіць так, каб добры тавар — інтэлект — акупляўся? Чамусьці інтэлектуальная ўласнасць слаба адстойваецца ў нас, асабліва ў гуманітарнай сферы. А выданне кніг асуджае жыць і рабіць толькі ў сябе дома. І потым. Пад Гофмана ўзялі вялікі крэдыт, пра які банк пастаянна нагадвае. Мы яго пакрысе выплачваем. Нас не зачыняюць, не зліквідоўваюць, бо разумеюць, бачаць нашу перспектыву. Выдавецкая ніша — ужо наша. Праўда, увесь цяжар асталявання на рынку, распаўсюджвання ды продажу прыпаў якраз на часіну ўсеагульнага станчэння гаманцоў ды кашалёў, людзі ж часам прадукты купіць не ў стане. Але гэтую сітуацыю рана ці позна зменяць... Мы з вамі ў тым ліку, — наша эстэтычная воля такая. Бо сама кніга — гэта раскоша матэрыялізаванага чалавечага інтэлекту. Твор мастацтва. Ён мусіць упрыгожваць паліцу і даваць разумовы спажыў таму, каму гэтая паліца разам з гэтай кнігай належаць. І ёсць пэўнасць, што чалавек, які купіў кнігу, ужо перажыў сваю эвалюцыю...

**Расповед занатавала**
**Жана ЛАШКЕВІЧ**

*"Аўтапартрэт" і вокладка кніжкі работы А.Фядорчанкі.*

зосіна палічка

КАСЯ Ў ШКОЛЦЫ



Малюнкі АНДРЭЯ ФЯДОРЧАНКІ

## Марцін КОЎЗКІ

"Паліцэйская дзяржава?" Бессаромная хлусня. Кожны знае, паліцэйскіх у рэспубліцы няма. А не знаўшы тое слова, як не скеміць па назову, скуль ідзе да нас мана — зарубежная яна. Што??? І вы пра накірунак??? Затрымаць!!! У пастарунак!!!

●

Сябру-вершатворцу. Прабіваешся ў вечнае зборам твораў? А ці прыйдзеш, бядак, хоць адным вершам? Вечнае, як бясспрэчнае, — не церпіць паўтору. Вечнае, як сардэчнае, — мусім быць першымі.

●

— Што такое адваротны бок? — пытаўся ва ўсіх клубок. — Адкуль ты ўзяўся, — разззлаваўся каток, — я табой нагуляўся, каціся зноў у куток.

●

Ленінскі афарызм пра сацыялізм? Фармулёўка патрабуе карэкціроўкі. Мелася на ўвазе перспектыва, а ёсць тое, што ёсць. Сканала савецкая ўлада, электрыфікацыя не прадухіліла алкагалізацыі, атрымаўся рэальны сацыялізм, на апошняй сваёй стадыі беспрычынна вызначаны як развітой. Дык той гэта ці не той і ці не пасуе тут лепш выраз: "плюс алкагалізацыя ўсёй краіны"?..

●

Дзівакі гэтыя амерыканцы. Не дурная, быццам, нацыя, а ядуць — можна толькі пасмяяцца. Схопіць на хаду той "гам-гамбургер", зап'е кока-колай ці фантай і панёсся далей у трансе. Бегаюць за сваім прэзідэнтам, вылічваюць у прадуктах калорыі і працэнты, а па колькасці таўстуноў не знаюць канкурэнтаў. Усё, думаю, ад машын. Ядуць у машынах, кіно глядзяць з машын, кахаюцца ў машынах, а каб у іх на гародзе стаяў туалет, ездзілі б туды на сваіх "Шэўрале". Не будзем казаць пустых слоў, хапае і ў нас таўстуноў. Але нашым толькі давай кілбасы, а тыя адно скарачаюць "масу". Упэўнены, у спаборніцтве мы іх адолеем — хударлявых ў нас заўжды будзе болей.




ЗАСНАВАЛЬНІКІ

Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
**прыёмная рэдакцыі — 2332-461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985**
**аддзелы:**
**публіцыстыкі — 2332-525**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985**
**літаратурнага жыцця — 2332-462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985**
**паэзіі і прозы — 2332-204**
**музыкі — 2332-153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153**
**выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 2332-462**
**навін — 2332-462**
**мастацкага афармлення — 2332-204**
**фотакарэспандэнт — 2332-462**
**бухгалтэрыя — 2682-660**



**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 4683
Нумар падпісаны 23.1.1997 г.
Заказ 383/Г

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12